*Думка чытача*

# Ці патрэбна нацыянальнае войска?

Аб неабходнасці перабудовы ў Савецкіх Узброеных Сілах сказана ўжо шмат. На мой погляд, важнейшым накірункам у гэтай справе павінна стаць арганізацыя нацыянальных вайсковых фарміраванняў. Дарэчы, у Чырвонай Арміі яны існавалі да 30-х, а ў некаторых выпадках — да 40-х гадоў. Гэта дазволіць кансалідаваць нацыянальныя вайсковыя злучэнні, павысіць іх адказнасць за лёс і бяспеку сваіх народаў, падняць баяздольнасць гэтых злучэнняў. Акрамя таго, іх стварэнне дапаможа зняць праблемы нацыянальных «зямляцтваў» і прызываў у войска, якія з кожным годам набываюць усё больш канфліктны характар.

Нацыянальныя вайсковыя злучэнні павінны ствараццa на аснове дагавораў паміж Саюзам і рэспублікамі, уваходзіць у склад аб'яднаных Узброеных Сіл Саюза і мець двайное падпарадкаванне—прэзідэнту Саюза і прэзідэнту рэспублікі. Прэзідэнт рэспублікі мог бы ў выпадку ўнутранага канфлікту ў рэспубліцы, згодна з яе законамі, выкарыстоўваць падпарадкаваныя яму войскі дзеля падтрымання парадку і забеспячэння бяспекі грамадзян. Адказнасць за выкарыстанне войска ў гэтым выпадку будзе несці сам прэзідэнт рэспублікі.

Улады рэспублікі будуць праяўляць больш увагі да паляпшэння дабрабыту, жыллёвых умоў «сваіх» вайскоўцаў і іх сем'яў. Гэта дазволіць выйсці з напружанага становішча з забеспячэннем афіцэраў і прапаршчыкаў Узброеных Сіл жыллём, якое ўзнікла, між іншым, з-за таго, што мясцовыя ўлады даволі часта не выконваюць сваіх абавязкаў перад арміяй. Другімі будуць адносіны да нацыянальнага войска і з боку насельніцтва рэспублік.

Нацыянальныя вайсковыя злучэнні павінны ў першую чаргу ствараццa ў сухапутных войсках і ў войсках супрацьпаветранай абароны, складацца толькі з часткі прызыўнікоў рэспублікі і дыслацыравацца на яе тэрыторыі. Астатнія прызыўнікі будуць служыць у агульнасаюзным войску. У выпадку, калі вопыт стварэння такіх злучэнняў дасць станоўчы вынік, колькасць іх можа быць павялічана. Тады частка нацыянальных вайсковых злучэнняў па дагавору з Саюзам размесціцца ў іншых рэспубліках ці за мяжой.

У сувязі з пераходам нашага грамадства да шматпартыйнасці палітаддзелы ў войску павінны быць скасаваны. Армія павінна знаходзіцца па-за палітыкай і падпарадкоўвацца толькі канстытуцыйна прызначаным органам. Пытаннямі патрыятычнага выхавання хай займаецца спецыяльны інстытут афіцэраў-выхавацеляў, якія б добра ведалі псіхалогію, сацыялогію, педагогіку, нацыянальную гісторыю.

У бліжэйшы час, як мне здаецца, рэальным з'яўляецца стварэнне нацыянальнага войска ў трох рэспубліках: Расіі, Украіне і Беларусі. З гэтых рэспублік паходзіць большасць афіцэраў Узброеных Сіл Саюза. Акрамя таго, гэтыя рэспублікі маюць вялікую абаронную прамысловасць.

Стварэнне нацыянальнага войска можна ажыццявіць у даволі кароткі тэрмін на матэрыяльнай базе тых вайсковых злучэнняў, што размешчаны на тэрыторыі рэспублік зараз. Пачаць гэты працэс можна з замены часткі афіцэрскіх кадраў гэтых злучэнняў на афіцэраў, якія служаць у іншых месцах і выкажуць жаданне служыць у нацыянальным войску. Набор у яго прызыўнікоў павінен ажыццяўляцца ў ваенкаматах рэспублікі прадстаўнікамі гэтых злучэнняў на аснове аналізу асабістых якасцей прызыўнікоў, іх жадання служыць у нацыянальным войску, валодання дзяржаўнай мовай рэспублікі.

Падрыхтоўку малодшага каманднага саставу для нацыянальнага войска мэтазгодна весці ў школах пры нацыянальных вайсковых злучэннях. Афіцэры павінны рыхтавацца на вайсковых кафедрах ВНУ рэспублікі, на нацыянальных факультэтах пры вайсковых вучылішчах, якія знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі.

Матэрыяльнае забеспячэнне нацыянальных вайсковых злучэнняў можна ажыццяўляць праз органы забеспячэння агульнасаюзных вайсковых аб'яднанняў. Пры ўтрыманні ж нацыянальнага войска за кошт рэспублікі выплаты яе ў агульнасаюзны бюджэт трэба паменшыць на адпаведную суму.

У форме (асабліва параднай і штодзённай) можа быць, я лічу, шырока выкарыстана нацыянальная сімволіка. Мовай службовых узаемаадносін, дакументацыі нацыянальных вайсковых злучэнняў павінна быць дзяржаўная мова рэспублікі. Абмен інфармацыяй з органамі кіравання Узброеных Сіл Саюза і вайсковымі злучэннямі другіх рэспублік павінен ажыццяўляцца на рускай мове.

Многія выказваюцца супраць стварэння нацыянальнага войска. Якія прыводзяцца аргументы? Першы з іх: а хто ж будзе несці службу ў раёнах Поўначы, у пустыні, за мяжой?

Па-першае, у нацыянальным войску, як я сказаў вышэй, будзе служыць толькі частка прызыўнікоў рэспублікі. А астатнія маглі б служыць у агульнасаюзных вайсковых злучэннях. Па-другое, частка нацыянальных вайсковых злучэнняў, згодна з дагаворамі паміж рэспублікай і Саюзам, магла б размяшчацца па-за яе межамі. І, нарэшце, ніхто не прапаноўвае, каб салдаты служылі каля свайго дому. Галоўнае — каб у межах сваёй рэспублікі. А, як вядома, і Чукотка, і Кушка належаць пэўным рэспублікам.

Нехта скажа, што нацыянальныя злучэнні могуць скарыстаць экстрэмісты дзеля захопу ўлады, развязвання вайны з іншай саюзнай рэспублікай. Але ж нацыянальнае войска будзе падпарадкавана прэзідэнту Саюза і законна абранаму прэзідэнту рэспублікі, а не палітычным экстрэмістам.

Магчымы сітуацыі, калі войска адной рэспублікі будзе накіравана супраць другой. Такую магчымасць можна прадугледзець у час заключэння дагавораў аб стварэнні нацыянальных вайсковых злучэнняў. Калі ж адна рэспубліка ў парушэнне дагавору пагражае другой узброенай сілай, то гарантамі захавання непарушнасці іх межаў павінны стаць нацыянальныя войскі трэцяй рэспублікі ці агульнасаюзныя ўзброеныя сілы.

Што датычыць нацыянальнага войска на Беларусі, то можа ўзнікнуць такое пытанне: ці да яго зараз беларусам? Сапраўды, зараз мы перажываем глыбокі крызіс. Але, каб выйсці з яго, каб не займацца непрымальнай для нашага становішча знішчальнай узаемнай барацьбой, мы павінны кансалідавацца як нацыя. Галоўнай кансалідуючай ідэяй павінна быць ідэя, якая стаіць вышэй, чым інтарэсы розных груп насельніцтва і палітычных групіровак. Гэта ідэя нацыянальнага выжывання.

Першым крокам да асэнсавання гэтай ідэі стане ўсведамленне сябе як нацыі — нацыі, якой ёсць чым ганарыцца ў сучасным і мінулым.

Моцным сродкам уздзеяння на нацыянальныя пачуцці, мне думаецца, з'явіцца сам факт існавання нацыянальнага войска, у сімвалах і назвах якога павінна ўвасабляцца гісторыя народа. Нацыянальнае войска можа стаць сімвалам нашай дзяржаўнасці, сродкам аднаўлення нацыянальнай годнасці, школай сапраўды патрыятычнага выхавання. Але гэта не значыць, што яно павінна мець нейкі дэкаратыўны, парадны характар. Нацыянальнае войска магло б узяць на сябе частку задач Узброеных Сіл Саюза ў сваім рэгіёне.

Раней ці пазней пытанне аб стварэнні нацыянальнага войска прыйдзецца разглядаць. Але, думаецца, нельга адкладваць гэтае пытанне надоўга.

**С. ГАРБАВЕЦ,**
**ваеннаслужачы.**

**Ганарар прашу перавесці ў фонд «Дзеці Чарнобыля».**

ЗДАЕЦЦА, хутка ўсе тэатры краіны пяройдуць на новыя ўмовы гаспадарання. Напэўна, гэта прагрэсіўна. Напэўна, гэта дэмакратычна. На прыкладзе многіх тэатраў рэспублікі, пасаджаных на эксперымент, можна сказаць і аб некаторых станоўчых аспектах: свабода выбару рэпертуару, павышэнне зарплаты, большая гаспадарчая самастойнасць. Але, на жаль, мастак прападае, калі яго атакуе камерцыя і яшчэ раз камерцыя. Драматургі таксама сталі падзарабляць... надзённасцю: на сталіншчыне, на прастытуцыі, на афганцах, наркаманах. Гэтыя тэмы цяпер — галоўныя ў нашай сучаснай драматургіі...

# Асуджаныя?

**А церпіць ад усяго гэтага — гледач. Якую шкоду прынеслі людзям творы, напоўненыя крыкадушнымі фразамі пра самую вялікую, самую багатую краіну, пра самага прыгожага, гарманічна развітога і мэтанакіраванага чалавека-асобу. А з жыцця адыходзілі паняцці гонару, дабрыні, гуманнасці. Сёння нажыва, матэрыяльны дабрабыт сталі галоўным для чалавека, пайшло многае з таго, што мы называем духоўным багаццем асобы. Можа здарыцца так, што мы ўсіх адзенем, накормім, дадзім без талонаў цукар і мыла, прынясём у краіну дастатак (што, напэўна, будзе не хутка), але вырасце бездухоўнае пакаленне. І гэта будзе «канец свету» ў поўным сэнсе слова. Мастацтва тэатра мае велізарнае значэнне ў выхаванні народа, але як культура можа выконваць гэтую важную функцыю, калі яна ў няміласці ў дзяржавы і грамадства?**

Я маю на ўвазе перш за ўсё адносіны дзяржавы да працы акцёра. Не буду браць пад увагу становішча сталічных акцёраў з імёнамі, званнямі, з асаблівым месцам у тэатральным свеце. Я хачу пагаварыць пра акцёраў, якія працуюць у правінцыйным тэатры.

Становішча такога акцёра — гэта становішча «прыніжанага і зняважанага» чалавека. Як жа можна тварыць, калі, акрамя слоў, няма ніякай сацыяльнай абароны? Я хачу, каб мой голас быў пачуты і зразуметы. Я сама актрыса і разумею, наколькі трагічная сёння тэатральная справа на перыферыі. У хуткім часе можа здарыцца, што тэатры проста стануць гасдагаворнымі прадпрыемствамі па вытворчасці дзіцячай мэблі, рамонце абутку (там жа ёсць сталярныя і бутафорскія цэхі), але не тэатрамі. Але як памагчы акцёру? Не сакрэт жа: многія з нас нават пры знаёмстве саромеюцца сказаць, што яны працуюць у тэатры. Прэстыж акцёрскай прафесіі катастрафічна падае. Вось ужо на працягу 50 гадоў зарплата акцёра драматычнага тэатра насуперак усім рэформам не адпавядае ўзроўню жыцця...

**Што можа прапанаваць тэатр маладому спецыялісту пасля ВНУ? 110 рублёў (паколькі некаторыя працуюць у новых умовах гаспадарання, яшчэ 20 рублёў «зверху»). Не можа прапанаваць кватэру: у тэатра яе няма. У лепшым выпадку інтэрнат (не лепшага выгляду). Як можна тварыць, калі акцёр з усіх бакоў заціснуты побытам?**

**Вядома, радуе, што акцёры, якія дасягнулі пенсійнага ўзросту, атрымалі ад СТД большую прыбаўку да пенсіі. А як быць тым, каму яшчэ жыць і працаваць у тэатры?**

**Сённяшні клопат СТД аб нас — гэта часцей за ўсё камандзіраванне групы крытыкаў у той ці іншы тэатр для разбору спектакляў.**

Думаецца, што мае трывогі падзеляць рэжысёры і акцёры многіх тэатраў. Многія ж беды нас родняць, як і робяць жахліва падобнымі адно на аднаго.

**Руслана САКАЛОВА,**
**актрыса.**

*г. Брэст.*

# А ГРЭЧКУ ВЫ ЛЮБІЦЕ?

Ці любіце вы грэчку? На гэтае пытанне, бадай, кожны чалавек адкажа: канешне, люблю. Дарэчы, вучоныя лічаць, што бялок грэчкі больш паўнацэнны за бялок злакавых культур. А дзякуючы значнаму ўтрыманню тлушчу, мінеральных соляў: жалеза, фосфару, арганічных кіслот (лімоннай, яблычнай, шчаўевай) грэцкія крупы — выдатны, проста незаменны дыетычны прадукт як для дарослых, так і для дзяцей.

Народ жа аценіў яе задоўга да адкрыцця навукай наогул усялякіх вітамінаў. Некалі на тэрыторыі Беларусі яе пасевы займалі большую плошчу, чым пасевы жыта.

Словам, грэчка — вельмі каштоўная, патрэбная, традыцыйная для Беларусі культура. Чаму ж грачаных круп нельга купіць у краме? Чаму яны даўно ўжо трапілі ў дэфіцыт?

Прычын тут некалькі. Самая галоўная — рэзкае скарачэнне пасяўных плошчаў грэчкі. Гадоў 20 назад у Беларусі яе сеялі амаль 300 тысяч гектараў, а летась усяго 23 тысячы. У сувязі з радыяцыяй скараціліся пасевы грэчкі ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях. Некалі выдатна радзіла грэчка ў маёй роднай вёсцы Клеявічы, што ў Касцюковіцкім раёне. Цяпер там 15 кюры, у суседніх вёсках яшчэ болей. Там не да грэчкі. На Міншчыне, Гродзеншчыне, Брэстчыне пасевы гэтай культуры скараціліся, таму што па ўраджайнасці яна не можа параўнацца з ячменем, пшаніцай ці жытам. Калі ячмень і пшаніца ў многіх калгасах даюць па сорак і болей цэнтнераў з гектара, то грэчка — 5-7. Дзесяць цэнтнераў — гэта ўжо добры ўраджай, а 20 — выдатны. Сёй-той з кіраўнікоў вырашыў, што ўсё роўна ордэн за грэчку не дадуць, у прэзідыум не выберуць, толькі зводку сапсуе.

Вось і пачалі зводзіць каштоўную культуру. Маўляў, не родзіць і ўсё тут. А раней жа радзіла. Бо раней селянін не ганяўся за валавымі паказчыкамі, не думаў пра ўзнагароды і кар'еру, а думаў пра тое, што будзе ў яго на стале, чым дзяцей карміць, што прадаць на рынку, каб мець свежую капейчыну. Таму і грачанікі былі, і мядок вадзіўся, і яблыкі ў садзе не гнілі.

Чаму ж не родзіць грэчка? Культура яна далікатная. Рана пасееш, ды на вялізным полі — можа загінуць ад марозу, бо дужа не любіць халоднага вясновага ветру. Другая прычына — панішчылі пчол. Людзі здаўна прыкмецілі: колькі б на грэчцы ні было цвету, без пчол ураджаю няма. Рознымі хімікатамі патруцілі чмялёў, іншых карысных насякомых.

Там, дзе ёсць пчолы, як правіла, і ўраджай грэчкі добры. У гэтым пераканаліся ў Ашмянскім раёне, дзе раней яе мала сеялі, а потым пачалі разводзіць пчол, болей сеяць грэчкі, і яна дае ў некаторых гаспадарках да 20 цэнтнераў з гектара.

Крыўдна, што і ў перадавых гаспадарках, дзе добра родзяць усе культуры, грэчкі няма. Летась я быў у калгасе «Нёман» на Стаўбцоўшчыне. Старшыня яго Юльян Пятровіч Цвірка, дбайны гаспадар, хваліўся высокімі надоямі малака, прывагамі мяса, багатым ураджаем пшаніцы, жыта, бульбы. Ёсць і пчолы — каля 200 сем'яў, а грэчкі зусім не сеюць. «Чаму так?» — запытаўся я ў старшыні. «Слабавата яна родзіць. Грэчку трэба лепей стымуляваць. Цану павысіць на яе».

Пра тое, што вырошчванне грэчкі трэба стымуляваць, гавораць і пішуць даўно. Рабіліся пэўныя захады. Напрыклад, у 1986 годзе Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову — выдаваць за тону грэчкі 6 тон камбікорму, а за тону насення — сем тон. І што вы думаеце? Ужо ў наступным годзе рэзка павялічылася плошча пасеваў, сярэдняя ўраджайнасць грэчкі дасягнула 9 цэнтнераў, а было ж 4,7 цэнтнера з гектара. У 1988 годзе Саўмін рэспублікі адмяніў сваё рашэнне, і ў 1989 годзе становішча пагоршылася.

У студзені 1990 года Савет Міністраў Беларусі зноў прыняў пастанову аб стымуляванні пасеваў грэчкі. А нядаўна ў друку з'явіліся новыя закупачныя цэны на зерне. Цяпер тона грэчкі каштуе 950 рублёў. Для параўнання скажу: тона першакласнай пшаніцы — 500, а жыта — 300 рублёў. На думку спецыялістаў, грэчка вартая і большай цаны.

Ёсць надзея, што грэчка ў нас будзе. Вось добры прыклад: восем гаспадарак Сенненскага раёна Віцебшчыны вырашылі сёлета адрадзіць забытую культуру. А што яна можа радзіць на зямлі гэтага раёна, летась даказалі калгасы «Ленінскі шлях», імя Ціміразева, імя Дзяржынскага.

А цяпер хачу сказаць пра свой уласны вопыт. Летась упершыню ў жыцці я сеяў грэчку на дачы ў Вілейскім раёне. Выдзеліў пад яе 2 соткі, адзін участак пасеяў 7 мая, другі — 17. На першым участку яна хутка, як гавораць мясцовыя жыхары, абышла. У ноч на 22 мая, акурат на Міколу, выскачыў марозік — градусы тры, усходы грэчкі стаялі, бы абвараныя, але потым акрыялі. Выратаваў іх лес, які зусім блізка, сваім крылом ён атуліў далікатную культуру. А на другім участку ўсходы былі вельмі рэдкія. У думках я ўжо вінаваціў суседскіх хахлатак, птушак, але прайшоў цёплы дождж, і паявіліся новыя ўсходы. Аказваецца, зямля перасохла, і грэчка не ўзыходзіла, пакуль не змачыў глебу дождж. Атрымаліся ў мяне ўсходы ў тры тэрміны. Цвіла грэчка больш як сорак дзён, штодня да абеда стаяў над ёй пчаліны звон. Вырасла грэчка ў пояс, зерне буйное, важкае.

Сёлета пасеяў грэчку 7 і 12 мая. Які будзе ўраджай — паглядзім. У мінулым годзе я даказаў мясцовым кіраўнікам, што грэчка на Вілейшчыне можа даваць добры ўраджай. Дарэчы, апроч усіх яе вартасцей, пра якія ўжо гаварылася, ёсць яшчэ адна: грэчка спрыяе здароўю зямлі, павышае яе ўрадлівасць, ачышчае ад ядахімікатаў.

Мы перажываем зараз час адраджэння: адраджаем родную мову, культуру, спрыяем арандатарам і фермерам — сапраўдным гаспадарам зямлі. Трэба адрадзіць і грэчку — спрадвечную культуру, якую вельмі шанавалі нашы продкі.

***Леанід ЛЕВАНОВІЧ.***

## Кнігапіс

С. ГРАХОЎСКІ. І. радасць, і боль... Вершы і паэмы. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1990.

**Вядомы паэт, вяртаючыся ў гады перажытага ў эпоху сталінізму, асэнсоўвае тое, што было, дае маральную ацэнку мінулага. Паэзія С. Грахоўскага набывае філасофскі аспект, аўтар задумваецца над сэнсам агульначалавечых вартасцяў цяпер, калі грамадства перажывае перабудову. Пераклад В. Арцёмава.**



Т. БОНДАР. Час, калі нас любілі. Аповесці. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1990.

**Дзве аповесці «Час, калі нас любілі» і «Жывыя жывуць» пераклалі на рускую мову Г. Грыбоўская і Г. Курынёва. Т. Бондар вяртаецца да падзей мінулай вайны, асэнсоўвае дзень сённяшні. Асноўную ўвагу яна ўдзяляе раскрыццю ўнутранага свету нашай сучасніцы.**




А. СТАВЕР. Пад канвоем. Раман. Для старэйшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1990.

**Маналог аб перажытым — так можна вызначыць змест рамана Алеся Ставера «Пад канвоем». Пісьменнік расказвае аб тым, што было з ім самім і яго аднагодкамі. Гэта праўдзівы расказ пра тое, як жылі беларусы ў гітлераўскай Германіі.**




Р. МЯДЗВЕДЗЕЎ. М. С. Хрушчоў. Палітычны партрэт. Мінск, «Беларусь», 1989.

**Палітычныя партрэты партыйных і савецкіх дзеячаў, напісаныя Роем Мядзведзевым, карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Кніга пра М. С. Хрушчова выйшла па-беларуску ў перакладзе А. Лукашука.**

---

**Тамара ЧАБАН**

# СПОВЕДЗЬ НЕСКАРОНАГА СЭРЦА

**Пра гэты твор яшчэ шмат скажуць і напішуць і крытыкі, і літаратуразнаўцы, і гісторыкі. Пакуль жа — першае ўражанне ад «Споведзі» Ларысы Геніюш, надрукаванай у гэтым годзе ў 1—6 нумарах часопіса «Маладосць»: такога яшчэ не было ў нашай літаратуры.**

*Я не гнуся ў палоне.*
*Не знаю, што страх.*
*Не палохайце словам. Ні*
*чынам.*
*Не ўздрыгне яно нат ў*
*найстрашнейшых руках, —*
*Нескаронае сэрца*
*жанчыны!*

*Ларыса ГЕНІЮШ.*

Незвычайнасць прамога, смелага нават на сённяшні час слова праўды, сказанай безаглядна, дагаворанай да канца, без дыпламатычных умаўчанняў і алегорый. Яго можна паставіць поруч хіба з «Лістамі з-пад шыбеніцы» Каліноўскага ды з паэтычным і публіцыстычным словам Купалы, сказаным на мяжы 20-х гадоў і надрукаваным толькі нядаўна. Нібы прарваўся ўвесь боль нашай зямлі, нібы выказалася яна за ўсе вякі маўчання пакорлівых і ціхамірных суайчыннікаў.

Уражвае і нязвыкласць характару гераіні «Споведзі», дзе спалучыліся жаночая чуйнасць і далікатнасць, інтэлігентнасць, «шляхотнасць» з незвычайнай мужнасцю, барацьбітнай нязломнасцю, гарачай перакананасцю, самаахвярнай, апантанай любоўю да спакутаванай Айчыны. «Беларуская Жана д'Арк» — нездарма так называлі Ларысу Геніюш у эміграцыі.

«Споведзь» адкрывае тэмы, якія ў нашай літаратуры яшчэ амаль не закраналіся, на якія было накладзена «табу». Няпростыя шляхі нацыянальнага адраджэння, калі найбольш адукаваная, свядомая і патрыятычная частка нацыянальнай інтэлігенцыі, асабліва з Заходняй Беларусі, вымушана была эмігрыраваць на чужыну... Лёс БНР, яе кіраўнікоў, з якімі была асабіста і непасрэдна звязана паэтка... Яшчэ нават часткі праўды не сказана пра трагедыю беларусаў, якія, аказаўшыся ў безвыходнай сітуацыі выбару паміж двума тыранамі — Сталіным і Гітлерам, выбіралі Беларусь... І нават тая частка «Споведзі», дзе расказваецца пра пакутныя, пякельныя кругі сталінскіх турмаў і лагераў і дзе многае «пазнаецца» дзякуючы творам Салжаніцына, Шаламава, Гінзбург, Грахоўскага, Мікуліча і інш., уражвае навізною погляду. Нязвыклая, не ўкладзеная ў пэўныя жанравыя рамкі і форма твора. Што гэта — аўтабіяграфія, успаміны, споведзь, запавет, абвінавачвае сведчанне, апошняе слова на развітанне, урок і папярэджанне? Што б ні было, добра, што яно ёсць, што яно сказана, што яно ўбачыла свет дзякуючы публікацыі Міхася Чарняўскага ў «Маладосці».

*На росны падворак*
*прыбегла сцяжынка,*
*Чаму ж апынулася тут я*
*сама,*
*Гдзе бегала дзіцем,*
*падрослай дзяўчынкай,*
*Вядзе сюды сцежка, а*
*хаты няма...*

«Споведзь» пачынаецца ўзнёслым гімнам роднаму краю і роднаму дому: «Благаслаўлены родны дом, гдзе бацькі і ўся дарагая сям'я. Благаслаўлены маленькі кусочак роднай, бацькавай зямлі на вялікай планеце, які называўся Жлобаўцы... Зямля да нас гаварыла. Яна разумела нас, акружала духам мінуласці ўсяго нашага народу і вялікай любоўю дрэваў, палёў...» Гімнам — і адначасова плачам развітання, бо гэта ўсё знішчана, разбурана, ад дома засталося толькі некалькі камянёў падмурка, і нават назва вёскі Жлобаўцы сцёртая з твару зямлі.

Па танальнасці першая частка «Споведзі» нагадвае мясціны «Камароўскай хронікі» Гарэцкага. Земляробчая, амаль язычніцкая ідылія, эпічная ўстойлівасць народнага быцця і быту тут дажывае апошнія імгненні, нібы развітальны прамень заходзячага сонца, шчымліва асвятляе і кранае душу. А за ім — змрочны цень польскай дыфензівы, страшная ноч сталіншчыны, крывавае зарыва другой сусветнай вайны... І стала там «страшна пуста, і толькі галасы замучаных стогнуць з вятрамі ноччу».

Але ўсё засталося, з дзяцінства навек адбілася ў душы як светлы вобраз Радзімы, за якую не страшна ісці на пакуты. Ён грэў сэрца і ў далёкай чужыне, і ў сталінскіх сібірскіх лагерах. Дом, радзіма, сваякі, сямейныя паданні, сны, нават сямейныя зданi — тая повязь, што лучыць чалавека з родам, выкоўвае сапраўды народны характар, надае яму адчуванне зямной устойлівасці, трываласці, бессмяротнасці.

*О, краіна шчасця, родная*
*матулька!*
*О, краіна ясных,*
*незабыўных дзён!*
*На шырокім свеце*
*не найду прытулку,*
*Не прывыкну сэрцам*
*да чужых старон!*

Ласкавая, гасцінная, шчырая зямля Беларусі! Усім, і сябрам, і суседзям, і нават ворагам давала ты цяпло і прытулак. І толькі не знаходзілася месца на роднай зямлі тым, хто адчуў сябе Беларусам, хто палюбіў цябе больш за жыццё, хто памкнуўся выявіць тваю душу ў словах, мелодыях і фарбах, хто адважыўся паўстаць за тваю волю... Вечны і горкі вырай, пачынаючы ад высланых у Канстанцінопаль полацкіх князёў і выгнанніка Скарыны і канчаючы хвалямі эміграцыі 30—40-х гадоў нашага стагоддзя. Першадрукары, асветнікі, духоўнікі, філосафы, вучоныя, лекары, палітыкі, мастакі, пісьменнікі, артысты, — людзі высокай культуры, розум і душа нацыі... Хіба не былі яны патрэбныя тут, на бацькаўшчыне? Яшчэ як былі патрэбныя радзіме і народу, але непатрэбныя і нават страшныя для тых прышлых і мясцовай гадоўлі паноў, паўпанкаў, лёкаяў і чыноўнікаў, якія адзіна сябе лічылі тут паўнапраўнымі гаспадарамі і носьбітамі вялікай культуры. Адна з іх, нейкая «мясцовая дзеячка» пані Хаенцкая з Ваўкавыска, у адказ на хадайніцтва мужа паэтэсы Янкі Геніюша, які (о жах!) захацеў вучыцца на доктара, «ледзь выслухала яго і сказала, што беларусу не абавязкова быць лекарам, што ёсць у бацькі 6 гэкт. і трэба гараць іх, і болей ніякай гутаркі...» Яны былі перакананы, што адзіная справа «тутэйшых» — араць і сеяць, не падымаючы вачэй ад зямлі, а калі і прамаўляць слова, то толькі слова падзякі і хвалы «ўладарам».

Таму і вялі, як здавён, як пры Скарыне, шляхі ў гасцінную Прагу беларускую моладзь, якая імкнулася да навукі. Тут, у асяродку славяншчыны, беларус не адчуваў сябе ізгоем сярод іншых славянскіх народаў. «На вуліцах цудоўнай Прагі мы свабодна гутарылі на роднай мове, і ніхто не паказваў на нас пальцамі, не высмейваў нас і не праследаваў, як гэта было ў Польшчы», — піша Ларыса Геніюш. Жыццё ў тагачаснай Празе, беларускае пражскае зямляцтва, пражская эміграцыя — асобная цікавая і змястоўная старонка ў «Споведзі». Тым больш што гэтая тэма, за выключэннем кнігі Уладзіміра Калесніка «Ветразі Адысея», амаль нідзе не закранулася.

У творы Геніюш з яго свабоднай кампазіцыяй глабальныя падзеі ў цэнтры Еўропы напярэдадні другой сусветнай вайны суседнічаюць з бытавымі падрабязнасцямі, замалёўкамі чэшскага быту, школы, кухні, асаблівасцей нацыянальнага характару. Дарэчы, пра неадменную беларускую правінцыйнасць, якой, быццам нацыянальнай дабрачыннасцю, узнагароджваюць нас мінулыя і сучасныя «культуртрэгеры», нібы няма ў нас ні старажытнай культуры, ні гісторыі, і жывём мы не ў цэнтры Еўропы, а недзе на глухім, аддаленым хутары.

Але вось менавіта з хутара прыязджае ў еўрапейскі горад сялянскае дзяўчо — і не адчувае гэтага комплексу правінцыйнасці, непаўнацэннасці, шарачковасці, з годнасцю сцвярджаючы: «Культура, якую я вынесла са сваяго дому, нічуць не ўступала хваленай эўрапейскай». І гэта не выглядае амбітнасцю, калі разумець пад культурай не знешні выгляд і манеры і большую ці меншую начытанасць, а, як разумела Ларыса Геніюш, «чэснасць і ветлівасць, праўдзівасць і смеласць, гасціннасць, ахвярнасць і крыху такі розуму...».

Беларуская эміграцыя, і асабліва прадстаўнікі ўрада БНР дагэтуль маляваліся ў нас толькі чорнай фарбай, і таму цікава і нязвыкла бачыць не маскі «класавых ворагаў», а жывых людзей са сваімі характарамі, лёсамі, духоўнымі драмамі, як убачыла іх па-чалавечы, па-мастацку Ларыса Геніюш. Тым больш, што яна не ідэалізуе іх, а паказвае розных — смелых і палахліўцаў, бескарыслівых і хцівых, шчырых і двурушных. Такіх, як Васіль Захарка, які, па словах Л. Геніюш, жыў і памёр з ідэяй незалежнай Беларусі. Калі немцы прапаноўвалі яму вялікія грошы, каб выступіў як старшыня ўрада БНР, засведчыўшы яго далучэнне да прафашысцкага ўрада, створанага немцамі ў акупіраваным Мінску, ён сказаў: «Гэта завялікія грошы для мяне і замалыя для майго народу». І такіх, як Іван Ермачэнка, фігура цёмная і злавесная, які гандляваў Беларуссю і яе сынамі і, кажучы словамі з верша Караткевіча, «толькі здрадзе не здрадзіў, і тым, хто за здраду заплаціць». Яго стараннямі была адпраўлена прывітальная тэлеграма Гітлеру ад Беларускага камітэта самапомачы, які ён узначальваў, і не без яго ўдзелу «прапаўшы» архіў камітэта аказаўся ў НКУС, і паводле яго былі асуджаны Геніюшы.

**Вядома, на аснове мастацкага твора, асабістых уражанняў, улічваючы палемічнасць аўтара, цяжка ўявіць аб'ектыўную карціну жыцця беларускай эміграцыі, дзейнасці ўрада БНР у Празе. Гэту рэальную карціну павінны непрадузята і сумленна ўзнавіць гісторыкі на аснове фактаў і дакументаў. Аднак сёння, відаць, недастаткова было б сказаць катэгарычна пра «тых членаў рады БНР, якія не прызналі на Берлінскай нарадзе 1925 года, як гэта зрабіла большасць, Савецкай Беларусі і Мінска адзіным цэнтрам палітычнага прадстаўніцтва беларусаў, не рашыліся скарыстаць з урадавага памілавання і вярнуцца ў Мінск для грамадскай і культурна-асветнай работы на карысць свайго народа», што «яны жылі міфамі і буянымі амбіцыямі», — як кажа У. Калеснік у цікавым і грунтоўным артыкуле пра заходнебеларускую літаратуру «Ачышчэнне памяці» («Полымя», 1989, № 9). Варта ўлічыць, што тыя, хто «рашыліся скарыстаць з урадавага памілавання» — Ластоўскі, Лёсік, Цвікевіч, Заяц, Пракулевіч і інш., — літаральна праз некалькі год былі рэпрэсіраваны і знішчаны фізічна як нацыяналісты... І памятаць, што дзяржаўная незалежнасць Беларусі толькі цяпер з фармальнай абалонкі пераўтвараецца ў рэальны суверэнітэт, і дай бог, каб ён стаўся сапраўды рэальным.... Таму варта прыслухацца і да другога боку, да тлумачэння сакратара ўрада Ларысы Геніюш, чаму ўрад БНР быў у апазіцыі і да беларускага савецкага ўрада, і (трэба аддаць належнае гэтаму факту) да цэнтральнай рады, створанай фашыстамі ў Мінску, чаму хавалі і перахоўвалі архіў і пячатку, не самаліквідоўваліся. «Не давала гэта нам нейкае ўлады, але мы мелі шчасце захаваць мінулае, факт і традыцыю прагалошання незалежнасці нашай, што для кожнага народу святая, вялікая рэч. Розна складаецца лёс народаў. Ёсць самастойнасць дзяржаўная, ёсць федэрацыі, але як бы ні было, маючы такі факт за сабою, мы адчувалі, што мы народ!»**

*Глумілі нас войнаў ліхія*
*прыбоі,*
*Народныя скарбы цяглі*
*да астатку.*
*Мы зналі:*
*нам трэба за людскасць*
*устояць,*
*Дастойнае імя пакінуць*
*нашчадкам!*

Воляю лёсу Ларыса Геніюш першай з беларусаў аказалася ў эпіцэнтры другой сусветнай вайны, першай убачыла ў дзеянні фашысцкую ваенную машыну, калі суседнія дзяржавы, не дбаючы аб будучым, пасутнасці кінулі безабаронную Чэхаславакію на расправу Гітлеру. «Прагна адскубла сабе з жывога цела Рэспублікі і ачумелая Польшча, быццам не думаючы аб тым, што чакае яе безабаронны, няшчасны народ». Больш таго, у гэты адказны час, раздзьмухваючы імперскія амбіцыі, сцвярджаючы ў друку, што «палякі немцаў



# Алесь Жук

# Красатуля

*апавяданне*

КАЛІ Віктар Ельніцкі вярнуўся з арміі, яго не пазнала нават родная маці. Старая Матрэна, падслепаватая ад старасці, з хусткаю, завязанаю нізка на вочы, каб не сляпіла сонца, палола бульбу на пляцы. Яна доўга прыглядалася да чалавека, які ішоў разоркаю з аселіцы. Чалавек быў у галіфэ, у адной руцэ нёс фуражку, у другой чамаданчык. На першы погляд — старшыня, бо і ў галіфэ, і з фуражкаю. Праўда, старшыня разбрыняў ад гарэлкі і ад закускі, намнога таўсцейшы з выгляду. Ды і пяшком ён не хадзіў. Нават і верхам ездзіць перастаў. Усё больш у вазку.

Незнаёмы падышоў бліжэй, заспяшаў да старое, і ў яе міжволі вырвалася:

— А хто ж гэта? Бачу, чалавек знаёмы, а пазнаць не магу.

— Го-го, не пазнаеш, мамаша? Гвардыі сяржант Ельніцкі!

Віктар задаволена рагатнуў, паставіў чамаданчык, падхапіў маці на рукі, маленькую, чорную, як высахлы на летнім сонцы балотны карчучок.

— А божачка ж мой! — раптам загаласіла Матрэна. — Даруй мне, божа! Дзіця сваё не пазнала! А як жа ты вырас, сыночак! А красатуля ж ты мая! — працягвала плакаць ад радасці і прыгаворваць старая.

— Ну, мамаша, ну, — не ведаў, як супакоіць яе разгублены Віктар, бо суседзі, якія таксама былі на пляцах, усё чулі і бачылі, а хлапчукі чарадой, як вераб'і, імчалі ўжо да салдата, бо ў салдата павінен быць, як верылася ім, поўны чамадан ваенных значкоў і зорачак таксама.

Адным словам, вярнуўся са службы салдат, як вярталіся і многія. Праўда, маленькі, закажанелы, нядаленькі Віктар на армейскіх харчах падрос на добры метр, разгарнуўся ў плячах і стаў падобны на свайго нябожчыка бацьку. І паставаю, і чорнымі валасамі, і нават носам з гарбінкаю, і белымі, як часнок, зубамі. Але ў гэтым дзіва вялікага не было.

— Прырода, яна, бат, сваё бярэ,— канстатаваў вечарам за сталом, устаўленым бутэлькамі самагонкі, сусед, стары стэльмах Даніла, які любіў пад усё падводзіць навуковую базу і гаварыць па-вучонаму, асабліва пасля таго, як выпіта не адна чарка. І тады ў вясковага мудраца замест любімага «брат» выгаворвалася «бат», за што Даніла і займеў адпаведную вулічную мянушку.

Салдацкі харч даў не толькі росту, але і ўпэўненасці некалі ціхаму і пакорліваму хлопцу. Першыя дні, як і належыць салдату, Віктар хадзіў па гасцях, потым узяўся быццам і за работу, паправіў пахіленыя і падпёртыя калкамі Матрэніны платы. Віктар частаваўся дома, у гасцях, у кампаніі з сябрукамі. За чаркаю любіў расказваць пра сваю службу, напіраючы на тое, што ён там быў не проста пяшка, а пры начальстве, і не кожны «ліцэр», гэтак ён называў лейтэнантаў, быў яму ўказ. А служыў Віктар пры намесніку начальніка па тылу палка маёру Шабашкіну, вазіў яго на машыне. На гэтым расказчык прымаўкаў, быццам даходзіў да вялікае ваеннае ці дзяржаўнае тайны, а сам успамінаў палкавую буфетчыцу, увішную трыццацігадовую казачку, якая прыручыла салдата і сустракала ахвотней, чым яго начальніка...

Аднак салдацкае гасцяванне зацягвалася. У вёсцы работа не чакае, і Матрэніна суседка, языкатая Волька не вытрывала і выгаварыла Матрэне, калі яны на колінцах палолі калгасную норму буракоў:

— А пара б ужэ і твайму Красатулю на работу ісці. Дакуль будзе выгульвацца? Ці яшчэ не ўсю тваю самагонку выпіў?

— Мой сын і мая самагонка! А ты, каб і хацела, дык да цябе ніхто выпіць не зойдзе! — адрэзала ёй Матрэна.

Аднак вечарам сказала сыну:

— Брыдка, Віцька, дома сядзець, людзі лапікаць пачынаюць.

— Ні храна яны, мамаша, не смысляць у цяперашняй жызні. Я з прадсядацелем гаварыў. Машына ў яго скора будзе, «казёл». І я яго вазіць буду. Цяпер, мамаша, той жыве, хто да начальства бліжэй.

— Глядзі, Віцька, Бог не цяля, бачыць круцяля. А з цяперашнімі старшынямі як звяжашся...

Матрэна толькі рукой махнула. А неўзабаве Віктар у клятчатай рубашцы з закасанымі рукавамі, белазубы, кучаравы, імчаў на машыне старшыню гэтак, што аж пылам курэла ў вокны, і не толькі па калгасе, але і ў «раён», і на рыбалку і за рыбалку.., А начамі з поўнаю машынаю хлопцаў і дзяўчат кружыў па наваколлю па вечарынках і фэстах. Хапала тады яшчэ і вечарынак, і дзяўчат, і самагонкі мора не меранае было. Ад яе Красатуля не адмаўляўся, як не крыўдаваў і на мянушку, што прыліпла да яго. Як і гарэлка, яна яму падабалася. І ён падабаўся і дзяўчатам, і кабетам, а таму з цягам часу яго «козлік» не-не ды і начаваў ля плоту пад бэзавым кустом пры хаце ўдавіцы...

Але кожнага дня Вялікдзень быць не можа. Старшыню знялі, а новы за п'янку перавёў Красатулю на грузавую машыну. І на «газіку» Красатуля на першым часе не здаваўся, шастаў па вечарынках, пакуль не ўскочыў у сваё — не прывучыў ездзіць з сабою ў лес дзевяцікласніцу з Гразаўка, маленькую, рабацінiстую з твару Жэньку Кавалькову.

Кончылася гэта тым, што сварлівая Кавальчыха ўляцела ў вёску пасля таго, як Красатуля паспрабаваў адмахнуцца ад дзяўчыны, і нарабіла гэтакае трансляцыі, што Красатуля не мог выкруціцца. Жэнька была яшчэ непаўналетняя.

Вяселля не гулялі, распісаліся маладыя ў сельсавеце, радня маладое пасядзела ў гасцях, як на памінках. З таго і сямейнае жыццё пачалося. Жэнька аказалася гэтакая ж ядкая характарам, як і маці. І характар праявіўся пасля таго, як нарадзіўся першы хлопчык, а праз год і другі. Красатуля ж на сваю Рабенькую, як ён называў жонку, аднак зважаць не хацеў, хлапцаваў па вяселлях, выпіўках, жанчынах. Жэнька яму спуску не давала, Красатуля часам на рабоце з кабіны вылазіць не хацеў — каб не бачылі людзі паабдзіраны твар.

Зусім не стала ладу ў сям'і пасля смерці старое Матрэны. Тая яшчэ ўгаворвала Жэньку цярпець, пакуль перашалее, перакруціцца муж. Дзецям трэба бацька. А Жэнька неўпрыкмет выкруглілася ў, спраўную, цягавітую, увішную кабету, пасвойму прывабную, каб на добры лад. Але Красатуля не мяняўся і нічога бачыць не хацеў.

А потым здарылася прыгода, пасля якой і так крывое жыццё зусім пайшло пад адхон, падмяла пад сябе і пахавала Красатулю назусім. Падвозчык кармоў на кароўніку, дурны, як вып'е, Пятрочак, за нішто збіў на горкае яблыка Жэньку. Яна павезла на яго заяву ў суд. Паехалі на Красатулевай машыне. Ён з вычасаным чубам, у рубашцы з закасанымі рукавамі і ў адпрасаваных перад паездкаю штанах. І жонка з крывым і апухлым ад пабояў тварам, ды яшчэ і ў нейкай даўгаватай і шырокай, як старэчы андарак, спадніцы.

У кабінеце Красатуля зухавата пазіраў на дзябёлую, прыгожую з твару і гладкую жанчыну у шэрым касцюме і белай кофтачцы. І нават усміхнуўся сам сабе, калі тая, пасля таго, як забрала заяву ў жонкі, сказала:

— А вы пачакайце хвілінку. Як ваша прозвішча? Вы сведка?

— Не, я не сведка. Я шафёр... Гэта суседка папрасіла, каб падвёз...

Красатуля прыасаніўся, гатовы працягваць гаворку і прыехаць хоць сёння на спатканне да гэтае белае жанчыны. Ён не заўважыў, што жонка не выйшла з кабінета, стаяла ў дзвярах. Ён не бачыў, бачыла жанчына, якая забірала дакументы, як зялёна і люта ўспыхнулі «суседчыны» вочы, як зірнула яна на свайго, ужо зашмальцаванага жыццём «суседа» і грукнула, бы адсекла, дзвярыма.

І калі ў наступны раз Красатуля дабраўся дадому апоўначы п'яны, як гразь, хапіла сілы толькі выбрацца з кабінкі і ўваліцца ў сенцы на ложак, Жэнька сустрэла яго не крыкам, а біла старым валкам, якім некалі качалі бялізну і палотны і які застаўся ў спадчыну ад старое Матрэны. І забіла б на смерць, каб не прачнуліся дзеці і не нарабілі крыку.

Пасля гэтага Красатуля п'яны ехаць дадому баяўся, начаваў, дзе давядзецца. Тым часам у яго з-за п'янкі адабралі і машыну, цяпер Красатуля рабіў на трактары. Але і трактарыст патрэбны людзям чалавек, таму гарэлка не канчалася, натура Красатулева не мянялася, пакуль пасля чарговае сустрэчы дома тым самым валкам ён не трапіў у бальніцу.

Ці то Жэнька і сапраўды нешта адбіла яму, ці гарэлка зрабіла сваё, але з бальніцы Красатуля выйшаў быццам састарэлы і саслабелы. Плечы абвіслі, згорбіўся ўвесь, шэрым, зямлістым стаў твар, і белыя цыганскія зубы быццам пашарэлі і не блішчалі болей.

Цяпер п'янаму Красатулю не давалі спуску і сыны, якія падраслі і слухаліся маці. Жэнька нават перастала мыць яму адзенне, гатаваць страву, і Красатуля карміўся тым, што прыгатуе сам на газавай пліце раніцай альбо заскочыўшы дадому ўдзень.

Яго Рабенькая выйшла ў перадавікі, старэйшага сына забралі ў армію, маладзейшы паступіў ад калгаса вучыцца ў інстытут на ветэрынара, і Жэнька займела поўнае права распараджацца сабой, як хоча. Таму дадому яна часам вяртаецца позна, крыху і на падпітку, людзі пагаворваюць, што вінаваты ў гэтым памаўзлівы калгасны заатэхнік, але да яго памаўзлівасці прывыклі і змірыліся з ёю, і Жэньку не асуджаюць. Звычайна Красатулі дома няма. А калі здараецца дома, то ўжо спіць п'яным мёртвым сном у сваім закутку — пакойчыку, выгараджаным дошкамі пры печы, дзе дажывала свой век Матрэна. І тады Жэньчыны вочы загараюцца зялёным агнём і нібы шукаюць той дзедаўскі валак, які звычайна ляжаў у запечку.

— Красатуля праклятая! Суседку найшоў! Абязвечыў ззамаладу! Хай цябе бог карае!

І ноччу яна ўсхліпвае ў пасцелі, пакуль не праваліцца ў кароткі, як забыццё, сон, а досвіта ўстае і ідзе на кароўнік. А Красатуля яшчэ спіць, яму пазней на работу. За дзень яго нехта знойдзе — трэба што-небудзь прывезці чалавеку, памагчы, і Красатуля не адмовіць. За работу ён грошай не бярэ, толькі частуецца. Усе гэта ведаюць. І яшчэ адзін дзень кане ў нябыт, як канае і ўсё яго жыццё.

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**



## Пытанне

Няўжо і праўда новы Герадот
У нейкай новай, іншай, эры
Выводзіць будзе на паперы:
«Тут беларускі жыў народ...»

«ХЛУСНЯ іншым ёсць часамі нявінная гульня, задавальненне славалюбнасці, — зазначаў Леў Талстой, — хлусня ж сабе ёсць скрыўленне ісціны, адступленне ад патрабавання жыцця».

У сталінска-брэжнеўскую эпоху тых, хто думаў і паводзіўся прыстойна, бязлітасна знішчалі альбо ганьбавлі, а тых, хто прыкідваўся, маніў іншым і сабе, лашчылі і падкормлівалі. Своеасаблівы катэхізіс — «История ВКП(б). Краткий курс» — умацаваў такія скрыўленыя погляды, такую скрыўленую мараль, што кожнаму з нас і цяпер нялёгка змяніцца: баімся іншых і сябе. Хлусня, боязь, што літаральна ўеліся ў нас, шашоляць і нашу душу, і арганізм усяго грамадства, не даюць узяць верх сумленнасці, праўдзе, сцверджанню самага простага і звычайнага, што побач, чаго патрабуе жыццё, здаровая логіка.

□

Аляксандр Герцэн: «Кожны адчуваў прыгнёт, у кожнага было штосьці на сэрцы, і ўсё ж усе маўчалі».

Чыёсьці былое і наша цяперашняе маўчанне, спроба прыстасоўвацца альбо затаіцца ў шчыліне і выжыць — па-першае, адтуль, з глыбінь стагоддзяў, калі ўлада змусіла нашых продкаў стаць на калені, схіляць галаву перад панам і царом, а па-другое, ужо і з новага часу, калі новыя ўладныя хлусілі, крывадушнічалі звыш усякай меры, прадумана і неміласэрна не толькі высочвалі, высякалі тых, хто мог думаць і гаварыць, але гэтак жа разлікова не давалі нават нарадзіцца тым, хто мог бы падаць голас пазней, хто рана-позна захацеў бы стаць асобаю, духоўна ўзвысіць грамадства.

□

Антон Чэхаў, з запісных кніжак: «...разумны кажа: «Гэта хлусня, але паколькі народ жыць без гэтай хлусні не можа, паколькі яна гістарычна асвечаная, дык выкараніць адразу яе небяспечна; няхай яна існуе пакуль, толькі з некаторымі папраўкамі...».

Многія ў нас, асабліва з прывілеяваных ветэранаў і з некаторых апаратчыкаў, зубамі і рукамі за такую «філасофію». Нават больш — на з'ездах народных дэпутатаў, на высокіх партыйных форумах людзі з новым мысленнем за адрачэнне ад застарэлых догмаў і стэрэатыпаў, за рашучыя перамены ў нашым жыцці, а іншыя па-ранейшаму аб'яўляюць учыненае сталіншчынай і сабой святым, самае вялікае згаджаюцца на невялікія папраўкі. І пры галасаванні арыфметычнай большасцю бяруць верх. Можа, і ад гэтага мы, грамадства, недаравальна доўга топчамся на месцы, стамляемся ад дыскусій, а то ўжо і зняверваемся ў тым, чаго яшчэ нядаўна хацелі.

□

Цяпер у нас, як мы кажам, «рэвалюцыя зверху».

Пры рэвалюцыі, як вядома, адмысловая сітуацыя, пэўныя палярныя сілы. У свой час, назіраючы за падзеямі 1905 года, вялікі рускі пісьменнік і мысліцель Леў Талстой падкрэсліваў: «Цяпер, у час рэвалюцыі, ясна абазначыліся тры групы людзей са сваімі якасцямі і недахопамі. 1) Кансерватары, людзі, якія хочуць ціхамірнасці і працягу прыемнага ім жыцця і не жадаюць ніякіх перамен. Недахоп гэтых людзей — эгаізм, якасць — сціпласць, пакорлівасць. Другія — рэвалюцыянеры — хочуць змен і асмельваюцца вырашаць, якія трэба змены, не баяцца насілля для ажыццяўлення сваіх намераў, а таксама і сваіх нягод, і пакут. Недахоп гэтых людзей—дзёрзкасць і жорсткасць, якасць — энергія і гатоўнасць пацярпець для дасягнення мэты, якая ўяўляецца імі высакароднай. Трэція — лібералы — не маюць ні пакоры кансерватараў, ні гатоўнасці ахвярнасці рэвалюцыянераў, а маюць эгаізм, жаданне ціхамірнасці першых і самаўпэўненасць другіх».

Мусіць, прыкладна такая сітуацыя і цяпер. Праўда, нашы некаторыя кансерватары аб'яўляюць сябе добрымі і харошымі — «прагрэсіўнымі», а лібералы,

Няўжо і праўда мой унук
Не будзе піць салодкіх траўняў?
О, як мне хочацца, каб праўнук
Звінеў пад небам, як жаўрук!

## Вячэра

(Эскіз з натуры)

Агонь у печы дагарае.
Булькоча бульба ў чыгуне.
Яшчэ увішная старая.
І два святыя на сцяне.
Святых завуць Пятрок і Павел.
Ды — я. Ды кот-вуркот на лаве.
О, дух сялянскага жытла!
Маё маленства гэтак пахла...
Мяне, Пятра і Паўла
Старая просіць да стала:
— Сядайце, хлопцы, бульба стыне...

## След

Хата вачмі пустымі
Глядзіць у халодны студзень.
«Як толькі мой след прастыне —
Ты тут жа мяне забудзеш...»

Завея ў марознай стыні
Зайшлася няўцешным плачам.
Не стыне... Твой след не стыне...
Не стыне твой след гарачы...

## Яшчэ раз пра зоркі

Я хацеў дастаць з неба зорку
І апёк сабе рукі.
Цэлы тыдзень я курчыўся ў муках,
Каханая плакала горка:
«Ну й далася табе тая зорка!
Людзі жывуць і без зораў,
Людзі не ведаюць гора...»

А доктар увішны
Сказаў, што не лішне
Звярнуцца да лекараў іншых...

## Сон

Пакінуўшы гмах высозны,
Заблудзіўся ў трох соснах.
Заблудзіўся ў тых самых соснах,
Што калыхалі мае вёсны.

Тры сасны...
Тры сястры...
Тры зялёных кастры...

## Эпіграф

Я раніцай дом пакіну,
Каб зноўку у далеч плысці.
Я ўсю ноч варушу ўспаміны,
Як вецер варушыць лісце.

## Іранічнае

Бусел журыцца ў атаве —
Бусел просіцца ў актаву.

Ён не знае, што актавы
Не прыносяць сёння славы.

Таму так страфу завершым:
Бусел белы ў белым вершы.

## Падзяка

Я вельмі ўдзячны
Твайму анёлу:
ён намаляваў мяне
такім вясёлым
і прывабным д'яблам,
што нават ты,
строгая недаткнёнка,
захацела са мной
пазнаёміцца.

## Чакаю

Я ў снах пра цябе
марыў,
Я вясной у цябе
верыў.
Я шукаў цябе
на ўсіх бульварах,
Я чакаў цябе
ва ўсіх скверах.
А ў небе плылі
хмары,
А мары былі
хімерай:
На бульварах
не тыя твары,
Твары не тыя
ў скверах.
О колькі я звёў
паперы,
Якія ні слаў я
чары!
Дзякуй табе за Веру,
Дзякуй табе за Мару.
...Я шукаю цябе
на усіх бульварах,
Я чакаю цябе
ва ўсіх скверах.



Генрых ДАЛІДОВІЧ

# АБАВЯЗАК

### Лісткі з запісных кніжак

што клянуцца ў вернасці перабудове, вычэкваюць: новы курс, «рэвалюцыя зверху» пераможа, рушыць наперад ці паверне назад...

□

Думаю, не трэба шмат тлумачыць, чаму кожны з нас уважліва сачыў за работай з'ездаў народных дэпутатаў.Назіранняў, розных думак мноства, але адзін аспект асабіста мяне асабліва ўразіў. Гэта — прамовы дэпутатаў «ад народа»: брыгадзіраў і старшынь сельскіх гаспадарак, дырэктараў заводаў і фабрык, якія любяць падкрэсліваць: «мы, сяляне», «мы, рабочыя»...

Многія з іх літаральна ашаламілі, паказалі: у многім наш сярэдні кіруючы корпус — падмурак каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, па-другое, ён, гладзенькі і сыценькі, князькаваты, адарваўся ад знясіленага працай і пошукам мыла ды шыла простага народа, а патрэцяе, калі і абапіраецца на «нізы», на «масы», то найперш на кансерватыўныя іхнія часткі. Дарэчы, некаторыя з апошніх, скажам, аблашчаныя рабочыя, патрабуючы «дысцыпліны і ладу», заадно фактычна дабіваюцца дыктатуры і рэпрэсій, не прадбачачы, што пры апошняй сітуацыі рана-позна могуць стаць ахвярамі і самі. Гісторыя яскрава паказала ж, па якіх прынцыпах дзейнічае махавік «адской машины»: сёння ты некага адправіў за краты, заўтра — хтосьці ўжо цябе...

У свой час Герцэн засмучаўся: «...з кансерватызмам народа змагацца цяжэй, чым з кансерватызмам трона ці амбона».

Не можам не засмучацца і мы: калі б не было столькі кансерватызму, правінцыйнасці, руціннай цярплівасці і без'языкасці ў нас, беларусаў, то іначай ішла б у рэспубліцы перабудова, іншы быў бы наш апарат, іншыя былі б адносіны да нашых нацыянальных бедаў...

□

Нядаўні Пленум ЦК КПСС, З'езд народных дэпутатаў СССР палітычна і заканадаўча адмовіліся ад манаполіі камуністаў на ўладу. Падкрэслім: не ад улады, а ад манаполіі на яе.

Гэтая навацыя, як і іншыя, здаецца, даходзіць да нас, у рэспубліку, у апошнюю чаргу. Чытаем чарговую прамову нашага высокага партыйнага кіраўніка: зноў зацятасць не прызнаваць яўныя былыя хібы і злачынствы, спроба выглядаць святым анёлам, утрымаць манаполію на ўладу і прывілеі, дзеля чаго зноў агрэсіўныя нападкі на сапернікаў — на нефармалаў і фармалаў, на новыя палітычныя сілы, дзейнасць якіх цяпер дазваляецца Канстытуцыяй.

Я член КПСС, трымаюся яе платформы, але, калегі, нельга пагадзіцца з такой зацятасцю, з такім непрыманнем асобных нашых лідэраў, якія ўжо не столькі мацуюць, колькі кампраметуюць партыю, звужаюць яе магчымасці. Да ўсяго варта рашуча адмовіцца ад дэмагагічных выкрунтасаў тыпу: ага, ты крытыкуеш нас — значыць ты цэліш на наша месца! Хопіць ужо высокія пасады размяркоўваць закулісна, па сваяцкіх і дружбацкіх прынцыпах, у сістэме апаратных перэтасовак, час ужо вылучаць на іх кампетэнтных, з новым мысленнем, сапраўды передавых і дзелавых у грамадстве, у тым ліку і маладых, здольных мысліць самастойна і браць на сябе адказнасць.

□

Герцэн мог дазволіць сабе сказаць: «...калі існуючы грамадскі лад апраўдваецца розумам, то і барацьба супраць яго, калі толькі ёсць, апраўданая». Мы сабе такога дазволіць не можам.

У нас яшчэ амаль любая крытыка мінулага ці сённяшняга ўспрымаецца як «замах на СССР, на сацыялізм і партыю...» У нас, калі хто жадае арганізавацца ў суполку, сумесна дзейнічаць нават дзеля абнаўлення грамадства, павінен падаць наверх сваю праграму, павінен прасіць дазвол на любы крок і на кожнае слова.

Цікава: ці змаглі б бальшавікі прыйсці да ўлады, калі б цярпліва выстойвалі ў прыёмных сытых і задаволеных царскіх чыноўнікаў, чакалі, калі іх прымуць, калі прачытаюць, пeратруць па костачках і адрэдагуюць іхнюю праграму, дадуць дазвол на мітынг, на рэвалюцыю?!

□

«Не тая хвароба небяспечная, што навідавоку ва ўсіх, прычыну якой усе ведаюць, — зазначаў Фёдар Дастаеўскі, — а тая, што тоіцца глыбока ўсярэдзіне, што не выйшла на паверхню і што тым мацней псуе арганізм, чым, непазнаная, далей застаецца незаўважанай. Так і ў грамадстве... Сілы самаасуджэння найперш за ўсё — сіла: яна паказвае тое, што ў грамадстве ёсць яшчэ сілы. У асуджэнні зла абавязкова схаваная любоў да дабра: абурэнне на грамадскія пошасці, хваробы мае на ўвазе вялікае жаданне здароўя...»

□

Невялікая, але красамоўная заметка ў «Известиях» у лютым г. г.

Супрацоўнікі ўпраўлення Камітэта дзяржбяспекі і пракуратуры Карагандзінскай вобласці вырашылі перагледзець крымінальныя справы, прысуды па якіх выносілі ў свой час так званыя «двойкі», «тройкі» і «асобыя нарады». Аказалася, шмат дакументаў глыбока схавана. Былыя работнікі НКУС наадрэз адмовіліся памагчы і знайсці тое, што трэба, і рэабілітаваць нявінных ахвяр 30—40 і пачатку 50-ых гадоў.

Але дакументы ўсё ж знайшлі. Толькі «тройкі» знішчылі 1437 чалавек. Толькі ў чатырох з 1670 спраў, што разглядаліся, ёсць доказ віны. У астатніх — домыслы і паклёпы.

Нельга не жахнуцца ад двайной амаральнасці: і ад таго, што і як некаторыя нашы сучаснікі рабілі раней, і ад таго, як яны паводзяцца цяпер. Якую халодную душу, якое каменнае сэрца трэба мець, каб адмаўляцца аднаўляць справядлівасць, вярнуць добрае імя тым, хто павінен яго мець?! Мала гэтага, некаторыя з былых садыстаў не толькі жывуць прыпяваючы, моляцца на «мудрага з мудрых», ідэалізуюць яго лад, псіхалогію, і мараль, ганарацца ўчыненым сабой, але на сходах рознага ўзроўню «б'юць трывогу», «выкрываюць экстрэмістаў», патрабуючы расправу з імі за іхнія погляды.

Можа, памыляюся, але, здаецца, асабліва агрэсіўныя пенсіянеры такога тыпу ў нас у рэспубліцы. Яшчэ і цяпер можна часта пачуць ад іх пад выглядам барацьбы за «еднасць», «святую справу» і г. д. самае звычайнае асуджэнне перабудовы і яе прыхільнікаў.

□

«Чалавецтва разумела гісторыю як шэраг бітваў, таму да гэтага часу барацьбу лічыла галоўным у жыцці» (Чэхаў).

Дзе-дзе, а ў нас, здаецца, па-ранейшаму многія якраз так разумеюць, лічаць, а заадно нават у мірных дыскусіях вышукваюць ворагаў...

□

Мой знаёмы, рабочы, здаў партыйны білет.

— Разумееш, — тлумачыць мне свой учынак, — у партыю я ўступіў не таму, што добра за дзесяць гадоў у школе, за два гады ў арміі і за тры гады работы на заводзе ўведаў яе гісторыю, праграму ці статут, а таму, што паслухаў нашага парторга. Ён гаварыў мне: ты — не абы-хто, а рабочы, ты самы значны ў нашай краіне чалавек. Мы, рабочыя, маем уладу — дыктатуру пралетарыяту, а ў нашай сістэме кіруючая сіла — КПСС, дык вось патрэбна справе, каб іменна ты, перадавік, сумленны чалавек, стаў яе членам. Трэба — дык трэба, падаў заяву.

Спачатку ціха сядзеў на сумных сходах-справаздачах, у парткоме, а потым пачаў выступаць за правы рабочых. Вось тут ушчыльную сутыкнуўся з тым, што на словах і што на справе. Карацей, я разгледзеў гульню: рабочыя ўлады не маюць. Яе ад іхняга імя трымаюць моцна іншыя, у тым ліку і былыя рабочыя. У «кіруючай сістэме КПСС». Асабліва востра гэта адчуў, калі забаставалі шахцёры. Як гэта так: рабочыя — гаспадары і бастуюць супраць сваіх... слуг?! Значыць, не гаспадары. Па-другое, чаму іменна рабочыя павінны ўзвышацца над сялянамі і інтэлігенцыяй? Першыя ж кормяць усіх, а другія рухаюць навуку і культуру! Паміж імі саюз? Але які саюз, якое раўнапраўе, калі аднаму загадзя гарантаваная дыктатура?!

Зазірнуў у Савецкі энцыклапедычны слоўнік, расказвае далей знаёмы. Чытаю: «Обеспечив полную и окончательную победу социализма в СССР и переход общества к строительству коммунизма, диктатура пролетариата выполнила свою историческую миссию и с точки зрения задач внутреннего развития перестала быть необходимой. Государство диктатуры пролетариата превратилось в общенародное социалистическое государство, в котором сохраняется руководство рабочего класса во главе с Коммунистической партией...».

Выпісаў гэтую «застойшчыну» на лісток і пайшоў да сакратара парткома. Скажыце, пытаю, як гэта зразумець: дыктатура пралетарыяту «выканала сваю місію», «перастала быць неабходнай», але ўсё-такі «захоўваецца кіраўніцтва рабочага класа на чале...». Што — мы, рабочыя, павінны забяспечваць камусьці быць «на чале»?..

Парторг аж затупаў нагамі: ты што — наслухаўся нефармалаў, БНФ? Альбо, можа, ужо іхні? Не, адказваю, сам прыйшоў да такой думкі. Калі ён закрычаў, што выключыць з партыі за такую «антипартийщину», я паклаў перад ім білет і пайшоў з кабінета.

□

Нашы «Тутэйшыя» напачатку, бадай, былі самыя дзёрзкія, калючыя з усіх так званых нефармалаў. Невыпадкова, мусіць, і ў іх асобах некаторыя ідэолагі вышуквалі дыверсантаў, завербаваных заходнімі спецслужбамі, нацкоўвалі былых спецаў па ўтаймаванню здаровага розуму і высакародных пачуццяў.

«Тутэйшыя» і іншыя, магчыма, дабіліся не вельмі шмат з таго, чаго хацелі, што маглі, але наскокаў, цкавання асабліва не збаяліся. Тым больш, што ў лепшых пачынаннях іх падтрымала грамадскасць.

«Калі вялікія ідэі, што кіруюць сваім часам, — пісала Марыэта Шагінян, — абрастаюць, як караблі пад вадой, ракавінкамі фармалізму, безжыццёвасці, мёртвай абавязковасці, яны пачынаюць здавацца толькі абстрактнымі (рассудочными), толькі фармальнымі, і маладыя, новыя чалавечыя пакаленні, якія пачынаюць свой уласны век, непазбежна счэпліваюцца з імі ў баявой сутычцы, здзіраюць з іх ракавінкі, топчуць іх, уяўляючы, што топчуць, у пыл пераўтвараюць самыя гэтыя вялікія ідэі мінулага часу. Але ідэі не паміраюць. А стоптванне ракавінак, якімі яны абраслі, выступленне супраць абстрактнасці — заўсёды карыснае. Не толькі карыснае — неабходнае. Гэта патрэбна і для самога розуму і для новага чалавецтва».

□

Асуджаць, лаяць моладзь дзе трэба і дзе не трэба — справа не новая, даўняя. Але ёсць, здаецца, і адваротны бок медаля ў адносінах да моладзі.

Іменна маладых спажывалі і спажываюць для самых дзёрзкіх, разбуральных і сваіх карыслівых спраў пад гучнымі і прыгожымі лозунгамі: у маладых мала сумненняў, развагі, дальнабачнасці, але затое шмат запалу таптаць, нішчыць «старое» і ўсталёўваць «новае».

Усе рэвалюцыянеры, бунтаўшчыкі і рэфарматары звычайна былі маладыя. І найперш яны звычайна прыносіліся ў ахвяру пасля ўчыненага...

□

У свой час Герцэн дакараў Заходнюю Еўропу, што яна «показала удивительную **неспособность** к социальному перевороту», радаваўся за Расію, што яна «не так не способна к нему» — г. зн. да рэвалюцыі.

Пытанне: калі цяпер тая Еўропа працвітае, а наша краіна, мякка кажучы, адстала ад яе, усё часцей і часцей працягвае руку з просьбай памагчы, то хто меў рацыю? Па-другое, што было б са светам, каб пасля 1917 года перамагла сусветная сацыяльная рэвалюцыя?

□

Дык што: прабегшы не зусім тую дыстанцыю, нам трэба вярнуцца да той вешкі, каля якой запыніўся яшчэ Ленін, і сказаў, што трэба падумаць «о коренной перемене всей точки зрения нашей на социализм»?

Тады, пры жыцці і адразу пасля смерці правадыра, уладныя саратнікі не захадалі задумвацца, мяняць ідэйныя канцэпцыі і насільныя метады. Цяпер, калі ўжо горкі вопыт змушае выбраць патрэбны шлях і больш разумную, высакародную мэту, многія з тых, хто мае ўладу, таксама нібы не чуюць таго ленінскага голасу, не шукаюць, не прапаноўваюць нам новае, плённае, маюць на ўвазе штосьці сваё. Можа, прыкладна тое, што было ў думках у іхніх папярэднікаў. Альбо, паўторым, задаволеныя тым, што ёсць, сваім высокім становішчам, сваімі прывілеямі.

А што рабіць нам, простым смяротным? Ісці навобмацак, шукаць, блытацца, таптацца на месцы, гарэць душой, падаць, падымацца і зноў ісці туды, дзе Ісціна, Праўда, Дабро і Высакароднасць? Але дзе яны? І што яны ўяўляюць сабой на справе?

**Асабістая мужнасць цанілася заўсёды і ўсюды. Але ў часы вялікай інфляцыі яна моцна страціла ў цане. Ёю сталі аплачваць рэчы, ЖЫЦЦЁВА неабходныя для развіцця цывілізаванага грамадства. Саюзу кінематаграфістаў БССР, напрыклад, «прабіваць» давялося ідэю новай мадэлі кінавытворчасці. Змаганне працягваецца і зараз, калі на «тэатр дзеянняў» уступіў доўгачаканы саюзнік — пастанова Савета Міністраў СССР, якая рэгламентуе сучасныя прынцыпы арганізацыі кінасправы.**

**Свой пункт гледжання на расстаноўку сіл у беларускім кіно ў гутарцы з крытыкам Нінай ФРАЛЬЦОВАЙ прапануе рэжысёр Міхаіл ПТАШУК.**

# „Не мы ўсчалі бой...“



**Н. ФРАЛЬЦОВА: — Міхаіл, вас не аднясеш да кінамастакоў, моцна пакрыўджаных у часы застою. Тым не меней вы (разам з Валерыем Рыбаравым), якраз напярэдадні ўступлення ў сілу пастановы Саўміна, пайшлі з «Беларусьфільма» пад эгіду кінафонду. Што прымусіла вас зрабіць гэта?**

**М. Пташук:** — Я даўно марыў аб стварэнні самастойнай, незалежнай студыі. Яшчэ калі распачынаў работу над «Нашым бронецягнікам». Не хачу сказаць, што быў залежным раней. Чаго не было, таго не было: здымаў, што хацеў, браў любы матэрыял, ствараў групу, у якой мяне разумелі...

**Н. Ф.: — Але сваю студыю вы ўсё-такі назвалі «НС» — незалежная студыя...**

**М. П.:** — Мяне заўсёды прыгнятала адчуванне падкантрольнасці (калі твая задума павінна прайсці праз афіцыйныя інстанцыі). Ідэю самастойнай студыі я прапаноўваў дырэкцыі: давайце зробім спробу, эксперымент. Па тыпу, напрыклад, «Ладдзі» на кінастудыі імя М. Горкага. Распрацуем механізм, каб былі бачны вартасці і недахопы новай мадэлі. Адказ атрымаў адзін: навошта вам гэты кааператыў?

**Н. Ф.: — На самай справе, навошта?**

**М. П.:** — Я задам сустрэчнае пытанне: чаму дзяржава павінна нажывацца на кінематографе? Вось канкрэтны прыклад. На чарговым кінарынку было прададзена 800 копій «Нашага бронецягніка». Дзяржава ўжо атрымала каля трох мільёнаў рублёў. А што атрымала здымачная група, людзі, якія непасрэдна працавалі над карцінай?

**Н. Ф.: — Кажуць, што ў сувязі з рэарганізацыяй зарплата на «Беларусьфільме» ўзрасла на 60 працэнтаў...**

**М. П.:** — Правільна. Для кіраўнічага апарату. Калі тры гады таму пачалі перабудоўваць наш кінематограф, зрабілі так: развялі рэжысёраў па чатырох ігравых студыях. Але чаму па чатырох, а не, дапусцім, па дзвюх ці дзесяці? Вядома, была тут тайная задума: адным арганізацыйным махам вырашыць унутраныя, міжусобныя канфлікты. Аднак іронія ў тым, што старыя праблемы не зніклі, а новыя не прымусілі сябе чакаць. Штаты распухлі. Дырэктарскі корпус умацаваўся чатырма намеснікамі. Раней быў адзін галоўны рэдактар, зараз іх чатыры. Тое ж самае адбылося з дырэктарамі студый. І потым... міжусобіца паміж студыямі, адарванасць адно ад аднаго. Мы не ведаем, хто, дзе і якія карціны здымае, не бачым аблічча «Беларусьфільма».

**Н. Ф.: — Магчыма, гэта выдаткі пераходнага перыяду?**

**М. П.:** — Гэта выдаткі псіхалогіі творцаў, выхаваных таталітарнай сістэмай. Адна справа — выступаць за новыя прынцыпы на трыбуне. Іншая — рэальнае жыццё. Сёння на «Беларусьфільме» пытанне нумар адзін — як выжыць паўтаратысячнаму калектыву, а не канкрэтнаму рэжысёру ці сцэнарысту. У імя гэтага нарошчваюцца аб'ёмы, бяруцца заказы збоку. Вытворчыя аддзелы перагружаны. Людзі нібыта працуюць, балазе, вытворчая база ў нас моцная. Заказчыку ёсць за што плаціць. І ён плаціць, каб атрымаць усё і адразу, хоць расцэнкі выраслі ў 1,5—2 разы. У параўнанні з 80-ым годам (а гэта самы пік застою) аб'ём вытворчасці павялічыўся ў два разы. Аднак аб росце мастацкіх каштоўнасцей размовы няма. Нават колькасць мастацкіх фільмаў (6—7 на год) засталася ранейшаю. Не больш чым раней і карцін першай катэгорыі, атрымліваць якую заўсёды было прэстыжна.

**Н. Ф.: — Дык у чым жа, па-вашаму, вінаваты творцы?**

**М. П.:** — Наша, падкрэсліваю, і мая таксама, віна ў тым, што ўсе гэтыя гады мы жылі кожны сам па сабе. Пераношу гэта не толькі на кінематограф — увогуле на культурны працэс у рэспубліцы. Валодаючы моцным нацыянальным патэнцыялам, нашы творчыя саюзы — пісьменнікаў, мастакоў і г. д. — аказаліся ўсе самі па сабе. Мне здаецца, у нас глыбока сядзела: чым горш у суседа, тым лепш нам. Мы, кінематаграфісты, не пакутавалі ад таго, што на нашых мастацкіх саветах не прысутнічаў, напрыклад, Васіль Быкаў. А каб ён там быў, упэўнены ў гэтым, узровень гаворкі і фільмаў быў бы іншым. Ды можна назваць дзесяткі людзей! Не было жадання актыўна прыцягваць іх да ўдзелу ў кінапрацэсе. Сёння, калі разбурыліся старыя ўстоі, бачыш, што мы скаціліся на правінцыйнае разуменне задач мастацтва. Рэальнасць такая, што, усвядоміўшы гэты крызіс, мы пераадольваем яго ў ізаляцыі ад творчых сіл, якія пры іншых перадумовах маглі б стаць нам апорай і падтрымкай.

**Н. Ф.: — Калі паглядзець шырэй, то цяжка адкінуць думку, што як від нацыянальнага мастацтва наша кіно асуджана на суровыя выпрабаванні перад гасразлікам.**

**М. П.:** — Вось таму ўжо цяпер неабходны кардынальныя крокі, каб заўтра ў беларускага кінематографа былі цвёрдыя гарантыі. Пытанне стаіць так: прасіць кіраўніцтва рэспублікі фінансаваць развіццё нацыянальнага кінематографа. Гаворка ідзе пра датацыі ў тры мільёны рублёў...

**Н. Ф.: — Між іншым, даходу ад «Бронецягніка» ўжо хапіла б на пакрыццё гэтай сумы.**

**М. П.:** — Так, гэта 6—7 карцін на год. Але хто пракантралюе мэтанакіраванасць гэтых сродкаў? Як яны будуць размяркоўвацца? Дзяржаўная праграма не павінна быць сродкам закабалення мастака. Трэба ўлічваць яго інтарэсы, заахвочваць таленты. Гэтаксама, як датацыя — гэта не інструмент улады для дырэкцыі, скажам, або Міністэрства культуры. Далей. Атрыманне дзяржзаказу зусім не азначае спакойнае, бязбеднае жыццё. У мастака і творчай групы павінен быць стымул не ў барацьбе за дзяржзаказ, а ў імкненні выканаць яго найлепшым чынам. Значыць, павінна быць сістэма дзяржаўнага заахвочвання праз прамы ўдзел у працэнтах ад прыбытку.

**Н. Ф.: — Пачакайце, Міхаіл. Здаецца, мы зводзім прадмет абмеркавання ў галіну эканомікі. Луналі ў вышынях, а сышлі на зямлю...**

**М. П.:**—На ёй і трэба стаяць, калі не спекуляваць на прыярытэце нацыянальнага. Вы цудоўна разумееце, што абарона інтарэсаў нацыянальнага кінематографа—гэта выгадны козыр, каб захаваць аўтарытарны спосаб размеркавання. Бо як можа атрымацца? Ты не з «нашай каманды», г. зн. студыі, няма табе і дзяржзаказу....

**Н. Ф.: — І тады, дапусцім, вам з вашай аўтаноміяй няма на што спадзявацца?**

**М. П.:** — Не толькі пра нас гаворка. Згодна пастановы, мастакі выводзяцца за штат. Студыі могуць быць на базе кінакамбіната, самастойнымі па-за ім і г. д. І галоўнае, я скажу, не грошы. Банк ужо цяпер ідзе на фінансаванне, калі ты зарэкамендаваў сябе. Даюць грошы «Масфільм», «Ленфільм», «Асацыяцыя свабодных кінематаграфістаў» СК СССР, прапаноўваюць заходніх партнёраў. Але! Рэарганізацыя кінематаграфічнай інфраструктуры, і ў гэтым бачу адзін з яе недахопаў, не рэгулюе заканадаўча адносіны з пракатам. У яго асобе дзяржава захоўвае свае правы на мастака. Ад пракату яна возьме ў цэлым сваё. Але для асобнага мастака, няхай будзе яго фільм геніяльны, справа можа абярнуцца катастрофай: да канца жыцця застанецца даўжніком. А калі гэта малады, пачынаючы кінематаграфіст? Альбо, вяртаючыся да тэмы беларускага кіно, гэты твор — здабытак нацыянальнай культуры? Не, такімі рэчамі рызыкаваць нельга.

**Н. Ф.: — Якое ж выйсце бачыце вы?**

**М. П.;** — Па-першае, давайце разбяромся, што такое нацыянальнае кіно. Калі я, беларускі рэжысёр, здыму, напрыклад, Ф. Дастаеўскага, гэта будзе нацыянальны кінематограф? На мой погляд, будзе.

# Ластаўка, што не зрабіла вясны

**«Ганенне і забойства Жан-Поля Марата» П. ВАЙСА ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача**

Са скасаваннем сістэмы зацвярджэння рэпертуару ў вялікіх белых і шэрых дамах, на сцэны хлынула плынь драматургіі раней «непажаданай», той, якую «не раілі» ставіць. Значнае месца ў ёй заняў еўрапейскі авангард: сюррэалізм, дада, абсурд, тэатр жорсткасці... Праўда, за мінулыя гады многія яго творы пазначыліся акадэмізмам, але гэта т а м. У нас ён рэвалюцыйны, як у дні свайго юнацтва. Гэта — непазбежнасць. Айчынны тэатр доўга бег уздоўж дасягнутай планкі, не адважваючыся пасунуць яе вышэй ці хоць бы зрушыць убок, а знаёмства з новымі сродкамі тэатральнай выразнасці, знойдзенымі ў рамках гэтых кірункаў, было неабходна. Хоць бы для таго, каб адкінуць іх з новай ступенню асэнсаванасці.

Перачытваючы многія, да нядаўняга часу «ідэалагічна чужыя» нам творы, я дагэтуль не стамляюся здзіўляцца, чаму быў такі доўгі і складаны іх шлях у нашу культуру. Навошта, дасягнуўшы такой высокай ступені «тэатралізацыі» грамадскага, дзяржаўнага і партыйнага жыцця, маючы такія бяспрыкладныя па масавасці хэпенінгі, як усенародныя аднагалосныя выбары аднаго дэпутата з аднаго кандыдата, партз'езды і г. д., мы прызналі прыярытэт у сферы абсурду і сюррэалізму за дзеячамі заходняга тэатра.

Не ведаю, наколькі актуальны С. Бекет для Англіі, але ягонае «У чаканні Гадо» — ці ж не гіпертрафіраванае выяўленне нашых спадзяванняў на камуністычны цуд, на тое, што з пачварных структур казарменнага сацыялізму раптам вылупіцца цудоўны лебедзь светлай будучыні? І тое, што «Лысая спявачка» Э. Іянеска сыграна ўпершыню ў тэатры «Нактамбюль», а не, скажам, у МХАТе імя М. Горкага — для мяне і несправядлівасць, і загадка. Бо п'еса — пра нас, пра тую, здавалася б, спецыфічную форму айчыннай свядомасці, калі адно гаворым, другое робім і невядома што пры гэтым думаем... Я ўсё гэта адрасую выразнікам яшчэ досыць распаўсюджанай думкі пра тое, што драматургія авангарду элітарная і, маўляў, недаступная масаваму гледачу. А я сцвярджаю, што гэта А. М. Астроўскі сёння элітарны са сваімі «Шалёнымі грашыма» і «Банкрутам», што ж тычыцца сюррэалізму, футурызму і абсурдызму, то няма ў свеце гледача, больш падрыхтаванага да гэтай праблематыкі, як наш, савецкі.

З усёй авангарднай шматколернасці ТЮГ выбраў тэатр жорсткасці. Таксама блізкі па духу кірунак, які дагэтуль развіваўся, праўда, большай часткай у нетэатральных памяшканнях. «Ганенне і забойства Жан-Поля Марата, якое прадстаўленае трупай вар'ятаў у Шарантоне пад кіраўніцтвам пана дэ Сада», гэтым разам прадставіла трупа рэспубліканскага ТЮГа ў рэжысуры В. Глыбокавай. Рэпертуарны выбар, на мой погляд, вельмі дакладны. Мы, якія мучаемся пытаннем аб тым, што ж адбылося ў Петраградзе семнаццатага года — Кастрычніцкая рэвалюцыя або кастрычніцкі пераварот, не можам не цікавіцца поглядам на рэвалюцыю як на з'яву чалавека з іншым сацыяльна-культурным вопытам — П. Вайса...

Відовішча было дынамічнае і яркае. У пастаноўках пластычных сцэн адчувалася моцная рука рэжысёра. Сцэнаграфія В. Чалпанавай задумана і выканана з густам і ўвогуле дзеянню не перашкаджае, а касцюмы проста добрыя. Акцёры працавалі захоплена. Трупа шарантонскіх вар'ятаў, згодна з рэжысёрскай канцэпцыяй поліфанічнага дзеяння, піла, ела, займалася каханнем, шаравала адзін аднаго вяхоткамі ў лазневых сцэнах, увогуле, паводзіла сябе досыць непасрэдна і досыць шумна, што, відаць, уласціва пацыентам такіх устаноў. Час ад часу на авансцэну выходзілі галоўныя героі ў дэзабілье і сіліліся перакрычаць масоўку, праўда, беспаспяхова. Тэатральныя крытыкі, што прыйшлі на прэм'еру, сядзелі спакойна. Яны ведалі п'есу і разумелі, што іграюцца філасофскія дыялогі Марата і маркіза дэ Сада пра канцэпцыі рэвалюцыі, пра фанатычную веру і адчай бязвер'я, пра сэнс жыцця чалавека і сэнс яго смерці. Астатнія гледачы круціліся на крэслах, спрабуючы што-небудзь пачуць і зразумець. Праўда, яны хутка прымірыліся і проста пачалі глядзець, што паказваюць. Паказвалі ўсё тое ж: залязанне пад спадніцы, вымярэнне адзін у аднаго тэмпературы, адлоў санітарамі найбольш неспакойных пацыентаў, групавыя танцы і многае іншае, гэтаксама захапляльнае...

Я выйшла з тэатра з дзіўным пачуццём зацікаўленасці і прыкрасці, з адчуваннем падзеі, што не адбылася, няскончанай размовы. Мяне зноў уразіла складанасць і выразнасць драматургічнай канструкцыі П. Вайса, актуальнасць ягоных меркаванняў, карэктнасць пастаноўкі праблем, незвычайнасць герояў п'есы. Тым больш дзіўнай падалася аблегчанасць яе сцэнічнага прачытання...

Спектаклю папярэднічае пралог, дзе ля нерухомай адзінокай паставы дэ Сада праходзіць у дрыготкім святле месяца чарада людзей — рой зданяў, абуджаных ягоным уяўленнем. Трагічныя падзеі Французскай рэвалюцыі 1793 года не даюць яму спакою. Замкнёны ў камеры, ён прадаўжае сваю даўнюю спрэчку з Маратам, спрэчку, перапыненую ўдарам кінжала Шарлоты Кардэ. Вядома, асоба Марата знаёмая нам не так добра, як, дапусцім, французскай публіцы, затое ідэі яго знаёмыя нам не толькі тэарэтычна, але і практычна. Рэвалюцыйная праграма Сябра народа была даволі поўна рэалізавана ў нашай краіне: знішчэнне багацця замест барацьбы з беднасцю, рэпрэсіўныя метады кіравання, ураўняльнае размеркаванне даброт, расправы з іншадумцамі, праследаванне царквы і г. д. Пэўна, як ніхто іншы, мы можам меркаваць аб кошце сацыяльных катаклізмаў, гвалтоўнай ломкі грамадскіх структур. Вядома, яе нельга назваць, гэтую цану, але можна наблізіцца да яе разумення. Стварэнне вобраза дэ Сада, на мой погляд, гэта і ёсць спроба такога наближэння. Два галоўныя героі п'есы Вайса — гэта не столькі розніасць характараў, колькі рознасць светапоглядаў. Дэ Сад мучаецца сумненнямі, Марат іх не ведае; для дэ Сада смерць аднаго чалавека — вялікая таемнасць, якая палохае, Марат упэўнены ў неабходнасці масавых пакаранняў. Для дэ Сада чалавек — гэта загадка, якую ён намагаецца спасцігнуць. Марат ведае не толькі людзей, але і, як яму здаецца, рэцэпт іх шчасця. І вырашэнне спектакля, па сутнасці, — гэта канцэпцыя канфлікту галоўных герояў.

Але не толькі пра канцэпцыю, — нават пра сам канфлікт у пастаноўцы гаварыць складана. Не выяўлена сутнасць супярэчнасцей герояў, не названы прадмет спрэчкі, няма працэсу псіхалагічнага ўзаемадзеяння паміж партнёрамі. Няпэўныя адносіны Марата і дэ Сада з трупай вар'ятаў, у прыватнасці, застаецца няясным, у чым выяўляецца кіраўніцтва імі дэ Сада? У гэтай ролі А. Казлоў выглядае скептычным, расчараваным і бяздзей-

Уся вялікая літаратура, буйныя тэмы, упершыню адкрытыя на нашым экране, няхай будзе гэта гісторыя ці сучаснасць, карацей, усё, што ўваходзіць у кола каштоўнасных арыентацый грамадства, прадаўжае і памнажае мастацкую традыцыю яго культуры, ці ж гэта не ёсць праява, дапусцім, майго нацыянальнага пачатку як рэжысёра?

**Н. Ф.: — Але мы гаворым пра ўласна беларускую тэматыку, у якой вы, дарэчы, шмат працавалі: «Вазьму твой боль» паводле І. Шамякіна, «Чорны замак Альшанскі» паводле У. Караткевіча, «Знак бяды» паводле В. Быкава...**

**М. П.:** — Дык жа і мэта праграмы бачыцца ў тым, каб гэты нацыянальны пласт вывесці на ўзровень агульначалавечых эстэтычных і этычных каштоўнасцей праз кінамастацтва. Не думаю, што тут ёсць нейкая супярэчнасць. Калі дзяржава бярэцца фінансаваць гэтую праграму, то вынікае другое: атрыманне дзяржзаказу павінна праходзіць праз конкурсную сістэму. Усе рэжысёры ў гэтым конкурсе павінны мець аднолькавыя правы на ўдзел. Магчыма, гэта ўвогуле будзе малады, нікому невядомы рэжысёр. Чыя ідэя пераможа, няхай той і здымае.

**Н. Ф.: Выходзіць, што колькасць ці профіль студый не будуць адыгрываць ніякай ролі?**

**М. П.:** — Для конкурсу — не дзяржзаказамі ўсіх забяспечыць немагчыма. У конкурсе — надзейны рэгулятар выбару таленавітых людзей.

**Н. Ф.: — Хто ж будзе праводзіць яго? Выносіць канчатковае рашэнне?**

М. П.: — Калі мы самі не ў стане размеркаваць гэтыя дзяржзаказы, а гэта так і ёсць, павінна быць трэцяя арганізацыя, на калегіяльнай аснове: ад Савета дырэктараў, ад Міністэрства культуры, ад Саюза кінематаграфістаў, можа, і іншых творчых саюзаў. У рэшце рэшт, гэта не складана прыдумаць, вынайсці механізм. Галоўнае, каб не было манаполіі, аўтарытарнасці, здольных разбурыць саму ідэю.

**Н. Ф.: — Але, па-мойму, разбуральнікамі называюць вас і Валерыя Рыбарава. У вас з'явіліся паслядоўнікі: у кінафонд пайшлі рэжысёры А. Карпаў, Б. Гарошка, аператары Ю. Плюшчаў, Т. Логінава.**

**М. П.:** — Гэта так. Высоўваецца тэзіс, што мы разбураем беларускае кіно, 70 гадоў яно стваралася, а мы сваім адыходам яго знішчылі. І кінуліся за грашыма. Не нажывацца мы ўздумалі на рэкламе, на заказах. Не будзем звязвацца з кааператывамі, хоць былі заманлівыя прапановы: адразу мільён — і пачынай здымкі. Калі б мы пайшлі на гэта, заўтра ж нашы калегі, сябры, вы, крытыкі, сказалі б: вось, высокія словы гаварылі, а самі што робяць. Ёсць жа паняцці гонару, сумлення, — у чым нашы апаненты чамусьці нам адмаўляюць. Як, між іншым, і ў прафесіяналізме: рэарганізацыя ў першую чаргу разлічана на яго высокі ўзровень. Калі ты ўмееш працаваць, то выжывеш.

**Н. Ф.: — І з'яўляюцца «Злодзеі ў законе», «Інтэрдзяўчынка»...**

**М. П.:** — Камерцыйнае кіно, у адрозненне, магчыма, ад вас, я прымаю без знаку мінус. Скажыце, які рэжысёр не марыць, каб на ягоныя фільмы ў кінатэатрах стаялі чэргі? І які не імкнецца дасягнуць гэтага сродкамі мастацтва? Іншае пытанне, што рэдка каму гэта ўдаецца. І гэта драма не толькі рэжысуры, колькі сістэмы, у якой кінематограф стаў магутнай дзяржаўнай машынай для атрымання прыбыткаў. Цяпер машына знасілася, а патрэбы растуць. Вось і нараджаюцца «кінадзяўчынкі» і «кінахлопчыкі», якія прывозяць у жах крытыкаў.

**Н. Ф.: — Вось тут якраз самы зручны момант папытаць пра вашы планы і задумы.**

**М. П.:** — Мы патрацілі шмат часу на арганізацыю, на распрацоўку палажэння, статута, на вызначэнне ўзаемных умоў існавання, каб у будучым выключыць канфлікты і эксцэсы. Абодва — роўныя мастацкія кіраўнікі. Калі адзін гаворыць «не» з нагоды нейкага праекта, пытанне здымаецца. У нас няма мастацкага савета. Няма трэцяй асобы, з якой можна аб'яднацца і «ціснуць» на «меншасць». Дзверы нашай студыі адчынены для ўсіх: рэжысёраў, сцэнарыстаў, аператараў. Няхай прыходзяць да нас маладыя, спрабуюць сябе. Мы гатовы памагчы. Плануем удзел у фестывалях, кінарынках. А што будзем здымаць? Зараз мы абодва ў рабоце...

**Н. Ф.: — Міхаіл, слухаю вас, і мяне не пакідае адчуванне: штосьці важнае ўвесь час у нашай гаворцы выслізгвае за «рамку кадра». Яшчэ ж тры гады назад ні вы, «запісаўшыся» ў творчую студыю імя Ю. Тарыча да В. Турава, ні В. Рыбараў, які пайшоў у студыю «Кадр» да В. Нікіфарава, не падазравалі, што сёння, такія розныя па кінематаграфічным «іміджы» і па асабістых прыхільнасцях (нездарма апынуліся ў розных калектывах), сыйдзецеся ў галоўным — аднолькавай рэакцыі на бурныя падзеі ў беларускім кіно. Што прымусіла аб'яднацца на адной платформе?**

**М. П.:** — Як ні дзіўна, усё, што вы пералічылі. Мы ішлі да гэтага, кожны па-свойму. Дзесьці нашы шляхі супалі. Не бачу ў гэтым выпадковасці. З абодвух бакоў гэта абдуманы крок.

**Н. Ф.: — Але ці знойдуць свой шлях іншыя? «Апаратная» перабудова на «Беларусьфільме», змаганне страсцей і амбіцый — ці няма ў вашым учынку выкліку часовым абставінам, якія рана ці позна зменяцца? Не баіцеся выпрабаваць на сабе эфект бумеранга?**

**М. П.:** — Вы ведаеце, цяпер я часам задаю сабе пытанне: якіх фільмаў не дачакаўся і не бачыць пакуль на экранах глядач? І ўсё часцей прыходжу да думкі: гэта карціны, якія не паспела зрабіць наша пакаленне. Мы пачыналі ў 60-ыя, калі шмат было абяцана, але працэсы абнаўлення грамадства абарваліся. Гэта для нас не прайшло бясследна. Без войнаў і грамадскіх катаклізмаў самы аказаліся лішнімі на гэтай ўрачыстасці бясчасся. З маладой верай, што дажывём да камунізму, як толькі нам перавалілі за сорак. З наіўнымі ідэаламі ўсеагульнай роўнасці і братэрства. І такім мы рабілі сваё кіно. Я не адмаўляюся ні ад аднаго свайго фільма. Але я хачу зразумець, у чым была тайна, магія гэтага масавага падману. Жывучы ў сённяшнім часе, суаднесці яго з гістарычнай дыстанцыяй, бліжняй і дальняй, каб ужо дакладна ведаць, куды ідзём. І гэта ўсё знахозіцца ў прамой сіметрыі з падзеямі на «Беларусьфільме». Не мы ўсчалі гэты бой. Але мы не адмовіліся ад яго.

# ВЕЧНАЯ КЛАСІКА

## «Спячая красуня» ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР

Сёлета гледачы Мінска ўбачылі прэм'еру балета «Спячая красуня». Гэты варыянт спектакля, што ідзе на сцэне Кіраўскага тэатра ў Ленінградзе, на беларускую сцэну перанесла народная артыстка СССР Ірына Калпакова.

**Зварот тэатра да гэтага твора не выпадковы. У сённяшнім рэпертуары ДАВТа БССР спектаклі класічнай спадчыны займаюць значнае месца, бо невымерна вялікая роля балетнай класікі ў эстэтычным выхаванні сучаснага гледача, у далучэнні яго да спрадвечных ідэалаў дабра, прыгажосці, справядлівасці. Акрамя таго, класіка — выдатная школа прафесійнага майстэрства для артыстаў, павышае ўзровень выканаўчай культуры, пашырае творчы дыяпазон. На сцэне беларускага тэатра ўжо не адзін год ідуць такія балеты, як «Лебядзінае возера», «Жызэль», «Сільфіда», «Дон Кіхот», «Шчаўкунчык», «Пахіта», «Арлекінада», «Прывал кавалерыі» і інш.**

**І вось цяпер — «Спячая красуня», спектакль, з якога, па сутнасці, пачалася эпоха сімфанічнага балета. Папулярная казка французскага пісьменніка-казачніка XVII стагоддзя Шарля Перо была перапрацаваная ў балетнае лібрэта І. Усевалажскім. Лібрэта адразу ж прывабіла П. Чайкоўскага і М. Пеціпа. Яны працавалі імкліва і радасна.**

**Так нарадзілася жамчужына рускай балетнай класікі. Прэм'ера на Пецярбургскай сцэне адбылася 3 студзеня 1890 года. І вось праз 100 гадоў нас зноў радуе гэты шэдэўр харэаграфіі.**



С. Раманава і В. Захараў у сцэне са спектакля.
Фота В. ДРАЧОВА.

**Спектакль у Мінску асабліва знамянальны тым, што «Спячая красуня» нібы святкуе свой 100-гадовы юбілей, прайшоўшы векавы рубеж існавання і трывала сцвердзіўшы сваю бессмяротнасць у харэаграфічным мастацтве, да таго ж сёлетні год — і юбілейны год П. Чайкоўскага.**

**Балет М. Пеціпа — гэта відовішча дзівоснай прыгажосці і гармоніі. Дзіўная ўзгодненасць музыкі (дырыжор А. Анісімаў) і танца, асаблівая мудрасць характэрныя для гэтага спектакля. Бездакорная класіка ўражвае суразмернасцю ўсіх частак і форм, спалучэннем грацыёзнай лёгкасці з сілай і магутнасцю.**

Артысты беларускай балетнай трупы аказаліся прафесійна гатовымі да ўзнаўлення стылю і паэтыкі старадаўняга класічнага балета. Усе яны захоплена працавалі над шматлікімі і тэхнічна складанымі партыямі, імкнучыся захаваць строгасць манеры, асаблівую ўвагу надаючы чысціні класічных ліній. У спектаклі ярка праявіліся таленты салістаў тэатра С. Раманавай, І. Душкевіч, С. Манзалеўскага, А. Карзянкова, Л. Цітковай, А. Фурмана і інш.

Прынцэса Аўрора ў выкананні Т. Яршовай — гэта бестурботнае, чыстае юнацтва, якое цвіце і змяняецца па законах казкі. Яе Аўрора ў пачатку спектакля — гэта чароўнае каранаванае дзіця, асыпанае ўвагай і дарункамі казачных фей. Яна даверлівая, шчаслівая, непасрэдная. Але, прытрымліваючыся ўнутранага развіцця ролі, у акце нерэід Аўрора робіцца марай, прывідам, ахутаным смугою тайны. А ў атмасферы багатага дварцовага святкавання апошняга акта балерына паўстае перад намі ўжо сапраўднай Прынцэсай ва ўсёй сваёй прыгажосці, уражваючы грацыёзнай і натуральнай веліччу.

Яе каханы, прынц Дэзірэ, у выкананні Ю. Раўкуця — натхнёны паэт, бездакорны кавалер. Ягонаму танцу ўласцівыя высакароднасць і правільнасць формы, дзе сіла злучана з элегантнасцю і прыгажосцю. Прынц Ю. Раўкуця — летуценнік, гатовы змагацца за сваю ўзвышаную мару пра каханне. Ён імкнецца да Аўроры і вырывае яе са здранцвення чарадзейнага сну, абраджаючы жыццё вакол.

У спектаклі шмат радасці, гарэзлівасці, казачнасці. Усё гэта зліваецца ў адзін няспынны ланцужок эпізодаў, здзіўляе фарбамі, бляскам, ярка малюе светлы, святочны свет. Выкананню артыстаў уласцівыя акадэмічная строгасць, урачыстасць, апломб, адточанасць рухаў і пастаў, што ў спалучэнні з адухоўленасцю стварае карціну самабытнага балетнага мастацтва часоў Марыуса Пеціпа.

Маргарыта **МЕРМАНІШВІЛІ**.

**ным, што, увогуле, адпавядае народным уяўленням аб маркізах. Ці дастаткова гэтых характарыстык для стварэння вобраза дэ Сада? Марат у выкананні Ю. Лапіна гэтаксама млявы; акцёр залішне, на мой погляд, падкрэслівае хваравітасць героя.**

Рэжысёр і выканаўца ўяўляюць Марата як фігуру трагічную. З гэтым нельга было б не пагадзіцца, калі б у трактоўцы вобраза не прысутнічалі адценні шкадобы і захаплення. Невыпадкова ў спектаклі Марата вянчаюць цернямі, як Ісуса Хрыста. Удумайцеся — цярновы вянок збавіцеля, які запавядаў: «Не забі», на ідэолагу масавага тэрору! Не той, хто марыць пра дабро, не ахвяра сляпога року, увасобленага ў Шарлоце Кардэ, — Марат паў ад гвалту, ім самім наклікана і аб'яўленага. Працягваючы біблейскія асацыяцыі, пра яго гібель можна сказаць словамі Евангелля: «Хто ўзяў меч, ад мяча загіне».

У адрозненне ад пасіўных кіраўнікоў трупы і рэвалюцыі шарантонскія вар'яты азартныя; і гэтыя здані вядуць рэй, а не медыум, што іх выклікаў. На гэтай лініі спектакля таксама адбываецца ломка драматургічнай канструкцыі П. Вайса. Тюгаўскія акцёры ўзялі вар'яцтва як самамэту; карыстаюцца гэтымі абставінамі як нагодай для нематываваных імправізацый. У драматургічным арыгінале пацыенты клінікі іграюць зусім нармальных і нават высокаінтэлектуальных людзей, вар'яцтва — толькі метафара, знак часу, абрынутага ў нянавісць і разбурэнне, свайго роду аўтарская ацэнка ідэй і падзей. Відаць, адзіная, хто даносіць да гледача гэтую метафару ва ўсёй яе трагічнасці, — Г. Кухальская ў ролі Шарлоты Кардэ.

**Яна падобна на прыгожую лялька са зламаным механізмам, але зламанасць яе сведчыць пра былую цэласнасць. У сваёй засяроджанасці на ідэі забойства Марата яна стала бясполай, неадчувальнай істотай, але яе прыгажосць сведчыць сама за сябе: яна была цудоўнай жанчынай. Кардэ нагадвае самнамбулу, але ці хвароба гэта — імкненне знішчыць крыніцу гвалту цаной уласнага жыцця? Яе вар'яцтва і яе жорсткасць — толькі адказ чалавека ў адчаі на вар'яцтва свету. Г. Кухальская паказвае ўчынкі Кардэ і іх матывацыі ў лагічнай узаемасувязі, аднаўляючы драматургічны аналіз падзей. У рабоце актрысы, у яе прыроднай мяккасці і жаноцкасці, я бачу нейкае супрацьстаянне цвёрдасці рэжысёрскай канцэпцыі, што трактуе Кардэ як сляпую зброю року. Гэта рэжысёрскае вырашэнне адэкватна ўвасабляецца другой выканаўцай ролі — А. Пераслені. Вобраз, створаны Г. Кухальскай, падаецца мне больш цікавым і дынамічным. Мяккасць манер гераіні асабліва падкрэслівае ненатуральнасць яе ўчынкаў. І ў гэтай ненатуральнасці ідэй, падзей, логікі паводзін герояў — ключ да вар'яцтва свету, апісанага П. Вайсам.**

**На жаль, гэтыя гістарычныя тэмы ніяк не жадаюць губляць сваю актуальнасць, і спробы гвалтоўнага наладжвання ўсеагульнага шчасця паўтараюцца зноў і зноў, і зусім не ў выглядзе фарсу. Думаючы пра Вялікую Французскую рэвалюцыю 1793 года, мы вольна ці міжволі шукаем аналогій з больш блізкімі нам падзеямі, датамі, больш знаёмымі імёнамі. І трэба сказаць, што знайсці іх нескладана: масавае знішчэнне нацыянальнай эліты, абясцэньванне чалавечага жыцця, разбурэнне рэлігійнай святомасці... Глядач мінскіх прэм'ер, валодаючы зусім іншым сацыяльна-культурным вопытам, чым, дапусцім, публіка першых прадстаўленняў «Ганення і забойства Жан-Поля Марата», шукае ў французскай гісторыі магчымы тлумачэнні загадак айчыннай. Тэатр, вядома ж, разумее гэтую цікавасць і адказвае на яе... але толькі рэквізітам. У адной са сцэн у шарантонскіх вар'ятаў з'яўляюцца ватоўкі, аблавушкі, кацялкі і іншыя прыкметы побыту паўночных лагераў. Потым яны таксама раптоўна знікаюць. Далей за гэта асэнсаванне агульнасці лёсаў не рухаецца. Гледачу няма магчымасці выразна ўбачыць чалавечую і грамадзянскую пазіцыю тэатра па закранутых праблемах.**

**І ўсё ж, нягледзячы на мноства пытанняў і нязгод, якія выклікаў у мяне спектакль, я не магу не выказаць павагі тэатру, які загаварыў пра такія балючыя праблемы дня з дапамогай складанай і нязвыклай для айчыннай сцэны драматургіі. Пастаноўка не стала, на мой погляд, удачай тэатра, ды і наіўна было б меркаваць, што рознасць эстэтычных і метадалагічных канцэпцый будзе пераадолена ў адначассе. Але спектакль «Ганенне і забойства Жан-Поля Марата», безумоўна, разнастаіць тэатральнае жыццё Мінска і пашырае глядацкае ўяўленне аб творчым патэнцыяле ТЮГа.**

**Галіна АЛІСЕЙЧЫК.**

# ЦАНА ПЕРАМОГІ

**Колькі ж ахвяр забрала на Беларусі вайна?**

РАСПАЧАТАЯ дэмакратызацыя нашага жыцця, народжаная ёю галоснасць прымусілі грамадскасць задумацца над балючым пытаннем — якія яны, сапраўдныя нашы людскія страты ў гады Айчыннай вайны? Ці адпавядаюць яны афіцыйным дадзеным?

Трэба сказаць, што некаторыя савецкія гісторыкі і дэмографы даўно ўзяліся за перагляд зацверджаных інстанцыямі лічбаў. Цяпер людскія страты краіны пазначаны ўжо не лічбай 20 мільёнаў, як было прынята лічыць доўгія гады, а —26-27 мільёнаў чалавек (прамыя страты) і 22-23 мільёны — страты ўскосныя. Значыць, 45-50 мільёнаў жыццяў — гэта і ёсць цана нашай Перамогі. Праўда, шэраг ваенных гісторыкаў з усіх сіл спрабуюць абвергнуць гэтыя лічбы. Іх нейк можна зразумець: калі вайна аказалася выйгранай цаной неймаверных ахвяр, дык пад сумненне ставіцца, па-першае, ваеннае майстэрства многіх нашых «праслаўленых» военачальнікаў, а па-другое, узнікае сур'ёзнае пытанне аб гуманнасці ладу, які, часам без усялякай патрэбы, гатовы праліць мора чалавечай крыві.

Мы ні ў якой меры не прыніжаем значэння гераічнага подзвігу савецкіх людзей у Айчыннай вайне, што прынеслі вызваленне ад карычневай чумы фашызму многім краінам, але хочам зразумець важнасць дакладнага і карэктнага вызначэння цаны нашай Перамогі. Беларусь пацярпела ў гады вайны мацней за ўсе рэспублікі. Але чалавечыя страты рэспублікі да канца не высветлены. У сувязі з пераглядам колькасці агульных страт Савецкага Саюза ў вайне павінны змяніцца і нашы ўяўленні аб стратах насельніцтва Беларусі. Да таго ж нас падштурхоўваюць да гэтага дадзеныя перапісу насельніцтва 1937 года, з якіх толькі-толькі пачало спадаць покрыва дзяржаўнай тайны.

Многія дзесяцігоддзі людскія страты Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны вызначаліся лічбай, якая ўвайшла ва ўсе энцыклапедыі і даведнікі — 2 мільёны 200 тысяч чалавек. Гэта «канчатковая» лічба, якая прыводзіцца ва ўсіх матэрыялах па Беларусі, мае адзін істотны недахоп: яе немагчыма праверыць. Застаецца «давяраць, не правяраючы». Аднак параўнаўча нядаўна доктар гістарычных навук прафесар В. Раманоўскі і журналіст Н. Новікаў у адным са сваіх артыкулаў у «Советской Белоруссии» сцвярджалі, што мінімальнай ацэнкай страт Беларусі ў гэтай апошняй вайне павінна быць лічба 2 мільёны 400 тысяч. Але ж важна не толькі ўстанавіць і зафіксаваць нейкі факт, трэба і раскрыць прычыну яго паходжання. А гэтага мы ў артыкуле не знайшлі.

Пры падліку страт Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны даследчыкі адштурхоўваліся ад дадзеных апошняга перадваеннага перапісу насельніцтва — 1939 года. Але дадзеныя гэтага перапісу насельніцтва былі знарок завышаны не толькі для СССР у цэлым, а і для Беларусі.

Прыведзеная ў афіцыйных матэрыялах перапісу выніковая лічба ў 170 мільёнаў чалавек была кашчунна-даведачная, так сказаць, лакіровачная. На самай справе ў Савецкім Саюзе жыло на 2 мільёны чалавек менш, чым у афіцыйна прыведзеных матэрыялах.

Апошнім часам з'явілася некалькі навуковых прац, дзе пераглядаюцца вынікі перапісу 1939 года па ўсім СССР. Але няма прац, у якіх бы аналізаваліся вынікі перапісу за гэты час па рэспубліках, у тым ліку і па Беларусі. Між тым, безумоўная фальсіфікацыя дадзеных перапісу па краіне не магла не адбіцца і на адпаведных дадзеных па рэспубліках, прынамсі, Беларусі. Пошукі ісціны ў дадзеным выпадку ўскладняюцца тым, што дадзеныя перапісу і 1937, і 1939 гадоў не захаваліся ды і, відаць, не маглі захавацца, бо пры нашай цэнтралізаванай сістэме іх апрацоўкі ўся інфармацыя збіраецца ў цэнтры, у Маскве, там падлічваецца, а потым ужо ў гатовым выглядзе вяртаецца «на месцы». Але дадзеныя перапісу 1937 года, пасля таго, як уся інфармацыя сабралася ў Цэнтральным Упраўленні Народнагаспадарчага Уліку (ЦУНГУ), былі аб'яўлены сфальсіфікаванымі трацкісцка-бухарынскім блокам і цалкам знішчаны. За тое, што факты перапісу разышліся са сцвярджэннямі Сталіна аб колькасці насельніцтва СССР, былі фізічна знішчаны практычна ўсе адказныя работнікі ЦУНГУ, якія праводзілі гэты перапіс. Ад матэрыялаў перапісу засталіся толькі нейкія рэшткі. Некаторыя з іх нам пашчасціла адшукаць у маскоўскіх архівах.

Дадзеныя (яны тычыліся менавіта Беларусі) захаваліся ў матэрыялах камісіі М. А. Вазнясенскага, якая працавала над высвятленнем праўдзівасці матэрыялаў 1937 года. У табліцах 1 і 2 гэтыя архіўныя матэрыялы прыведзены ў той частцы, дзе яны тычацца агульнай колькасці насельніцтва Беларусі і яго нацыянальнага складу.

Можна зусім аб'ектыўна сцвярджаць, што перапіс 1937 года, дадзеныя якога мы толькі што прывялі, быў праведзены значна карэктней, чым перапіс 1939 года. Далей мы робім адно дапушчэнне, якое распаўсюджана ў дэмаграфіі — менавіта, што тэмпы натуральнага прыросту насельніцтва ў перыяд паміж перапісамі 1937 і 1939 гадоў заставаліся нязменнымі. Думаецца, што гэта не зусім адпавядае ісціне, бо менавіта на гэтыя гады прыпала значная частка сталінскіх рэпрэсій. Такое дапушчэнне дасць нам крыху завышаную лічбу насельніцтва рэспублікі на пачатак 1939 года, але ўсё-такі не такую завышаную, як знарок сфальсіфікаваныя дадзеныя перапісу 1939 года. Выкарыстоўваючы наяўныя апублікаваныя дадзеныя аб натуральным прыросце насельніцтва, можна прыйсці да высновы, што колькасць усяго насельніцтва Беларусі ў межах да 17 верасня 1939 года, г. зн. да ўз'яднання з Заходняй Беларуссю, складала 5334 тыс. чалавек.

Нам бы хацелася тут звярнуць увагу на адсутнасць этнічнага падыходу ў вызначэнні чалавечых страт. Аднак думаецца, што ў кожнага народа свой лік ахвяр у самай крывапралітнай у гісторыі чалавецтва вайне. Кожны народ павінен ведаць, колькі ягоных сыноў і дачок заплацілі за нашу агульную перамогу сваёй крывёй. На жаль, у нашай гістарычнай і дэмаграфічнай літаратуры не было прынята вызначаць памер чалавечых страт у сусветнай вайне ў этнічным разрэзе, г. зн. адносна кожнага асобнага народа.

Такім чынам, колькасць насельніцтва БССР згодна з афіцыйнымі дадзенымі перапісу насельніцтва 1939 года была завышана ў параўнанні з рэальнай на 215 тыс. чалавек.

Перад чытачом можа паўстаць пытанне — чаму матэрыялы перапісаў 1937—1939 гадоў дагэтуль застаюцца неапублікаванымі? Адказ на яго трэба шукаць не ў матэрыялах саміх перапісаў, а ў той нядобрай існуючай у нас традыцыі, паводле якой практычна ўся статыстыка насельніцтва лічыцца сакрэтнай.

**Толькі ў апошні час з'явіліся артыкулы, у асноўным публіцыстычнага парадку, у якіх прыўздымаецца заслона тайны над дадзенымі перапісаў насельніцтва 1937 і 1939 гадоў (М. Тольц. Дык колькі ж нас тады было? «Огонёк» № 51 за 1988 г., В. Цаплін. Статыстыка ахвяр сталінізму ў 30-я гады. Пытанні гісторыі. № 4, 1989 г. і інш.). Разам з тым, у нас усё яшчэ не спяшаюцца адмяніць усе забароны на карыстанне архіўнымі матэрыяламі 30-х гадоў. Сакрэтнасць вядзе да страты даверу шырокага чытача да статыстычных публікацый, што ў сваю чаргу наносіць немалы маральны ўрон.**

**Зыходзячы з атрыманых намі новых, удакладненых дадзеных аб колькасці насельніцтва, вызначым колькасць жыхароў на тэрыторыі Беларусі (у сучасных межах) на верасень 1939 г., г. зн. на момант уз'яднання ўсходняй і заходняй частак. Пры дапамозе звестак аб натуральным і міграцыйным руху насельніцтва Усходняй Беларусі і дадзеных аб колькасці ўсяго насельніцтва Заходняй Беларусі атрымаем канчатковую лічбу — 8748 тыс. чалавек. Вызначыць нацыянальны склад аб'яднанай Беларусі ўяўляецца справай досыць складанай. З улікам тэмпаў натуральнага прыросту колькасць беларусаў ва ўсходніх раёнах на момант уз'яднання складзе 4483 тыс. чалавек. Цяпер застаецца даць колькасць беларусаў у Заходняй Беларусі ў момант уз'яднання, каб атрымаць шукаемую лічбу колькасці беларускага народа ў БССР у верасні 1939 года. Але тут трэба зрабіць адну агаворку.**

**Найбольш распаўсюджанай у спецыяльнай літаратуры лічбай колькасці беларусаў у Заходняй Беларусі ў момант уз'яднання з'яўляецца 3 мільёны чалавек. Але калі зыходзіць з таго, што агульная колькасць насельніцтва Заходняй Беларусі складала ў той момант 3343 тыс. чалавек, атрымліваецца, што беларусы складалі 89,7% насельніцтва Заходняй Беларусі. У той час як ва ўсходніх раёнах Беларусі яны, паводле нашых разлікаў, складалі ўсяго 82,9%. Гэта пярэчыць дадзеным перапісаў насельніцтва на тэрыторыі сучаснай Беларусі, пачынаючы з 1897 года, якія сведчаць аб тым, што доля этнічных беларусаў ва ўсходніх абласцях была большай, чым у заходніх. Больш разумна прыняць за аснову другое дапушчэнне, якое таксама часта сустракаецца ў літаратуры, — што беларусы складалі каля 80% насельніцтва Заходняй Беларусі. Тады іх колькасць складзе 2674 тыс. чалавек. А агульная колькасць беларускага народа ў сучасных межах пасля ўз'яднання ўсходніх і заходніх раёнаў дасягне 7158 тыс. чалавек. Яўная супярэчнасць, пра якую мы толькі што гаварылі, існуе паміж лічбамі, што часта прыводзяцца ў айчыннай навуковай літаратуры ўжо не адзін дзесятак гадоў. Але ніхто раней ніякай увагі на гэтае пытанне не звяртаў, бо лічылася, што ў нашай краіне нацыянальнае пытанне было раз і назаўсёды вырашана.**

Так, па нашых падліках колькасць усяго насельніцтва Беларускай ССР у сучасных межах у верасні 1939 года склала 8748 тыс. чалавек. Колькасць беларусаў у гэты ж момант на той жа тэрыторыі складала 7158 тыс. чалавек, або 81,9% усяго насельніцтва. Дадаўшы сюды натуральны прырост беларускага насельніцтва за 21 месяц да пачатку вайны, атрымаем агульную лічбу — 7422 тыс. чалавек.

Такім чынам, к пачатку вайны, г. зн. на чэрвень 1941 года колькасць усяго насельніцтва БССР склала, па нашых падліках, 8976 тыс. чалавек, а колькасць беларускага насельніцтва ў БССР — 7422 тыс. чалавек, або 82,7%. Цяпер, адштурхоўваючыся ад атрыманых намі лічбаў, мы можам па-новаму паглядзець на велічыню страт як усяго насельніцтва рэспублікі, так і беларускага народа.

У апошніх работах, прысвечаных ваенным стратам, даволі часта сустракаецца такі варыянт разліку, калі ад колькасці насельніцтва на момант заканчэння вайны адымаюць колькасць насельніцтва на момант яе пачатку, і атрыманую велічыню спрабуюць прадставіць як велічыню страт. Але ж гэта толькі частка страт, так званыя прамыя страты. Мы ж імкнёмся да вызначэння агульнай велічыні страт, куды павінны ўвайсці таксама і ўскосныя страты (як вынік зніжэння нараджальнасці, павышэння смяротнасці, зніжэння колькасці шлюбаў у гады вайны). Напрыклад, у БССР ужо ў пачатку 1942 года пачалося падзенне каэфіцыента нараджальнасці, а наступныя гады далі яшчэ большае яго зніжэнне. І прамыя, і ўскосныя страты складаюць разам дэмаграфічныя страты, якія ў гады вайны адбываюцца па многіх прычынах: у выніку прамога фізічнага знішчэння, голаду, хвароб, павышанай смяротнасці, рэзкага падзення нараджальнасці, гвалтоўнага вывазу часткі насельніцтва ў фашысцкую Германію на прымусовыя работы і ў канцэнтрацыйныя лагеры. Да прыкладу, толькі ў Мінску, па разліках аднаго з нас, магчымыя дэмаграфічныя страты насельніцтва за перыяд акупацыі склалі 260 тысяч чалавек.

Каб вызначыць урон ад вайны, нам трэба вызначыць, наколькі было б больш насельніцтва ў Беларусі ў пасляваенныя гады, калі б не вайна. Адштурхоўваючыся ад атрыманай намі лічбы насельніцтва БССР на сярэдзіну 1941 года і дадзеных аб сярэдніх тэмпах натуральнага прыросту за перадваенныя гады, атрымаем, што да пачатку 1947 года насельніцтва БССР павінна было складаць 9769 тыс. чалавек. Чаму менавіта да пачатку 1947 года, а не на момант заканчэння вайны?

**Параўнаць разліковую, магчымую колькасць насельніцтва неабходна з рэальнай лічбай пасля заканчэння вайны. Бліжэйшая рэальная лічба колькасці ўсяго насельніцтва, якую мы маем, прыпадае на пачатак 1947 года. У гэты час у краіне праводзіліся выбары, і ў сувязі з гэтым, трэба было зрабіць ацэнку агульнай колькасці насельніцтва. У архіўных матэрыялах, прысвечаных падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Савет і мясцовыя Саветы, прыводзілася некалькі лічбаў колькасці насельніцтва ў рэспубліцы: узялі ў разлік меншую, ведаючы імкненне нашых афіцыйных органаў на словах «паляпшаць» дэмаграфічную сітуацыю, каб паказаць росквіт нашай краіны. Па атрыманых намі архіўных дадзеных колькасць насельніцтва на пачатак 1947 года склала ў БССР 6917 тыс. чалавек. Вядома, трэба ўлічыць, што да пачатку 1947 года пасляваенная колькасць насельніцтва (на сярэдзіну 1945 года) ужо значна ўзрасла. Па-першае, практычна поўнасцю ўжо вярнуліся бежанцы з тэрыторыі Беларусі (у эвакуацыі знаходзілася звыш 1 мільёна чалавек). Па-другое, да пачатку 1948 года закончылася дэмабілізацыя Савецкай Арміі. Па-трэцяе, пасля вайны заўсёды назіраецца кампенсатарная дэмаграфічная хваля, калі натуральны прырост насельніцтва асабліва высокі. Усё гэта сведчыць аб тым, што адразу пасля вайны колькасць насельніцтва Беларусі была значна ніжэйшая, чым прыведзеная намі лічба на пачатак 1947 года.**

Такім чынам, рознасць паміж разлічанай намі магчымай колькасцю насельніцтва Беларусі на пачатак 1947 года і рэальнай колькасцю насельніцтва на гэтую ж дату складзе 2852 тыс. чалавек. Але да пачатку 1947 года з моманту заканчэння вайны насельніцтва Беларусі ўзрасло за кошт натуральнага прыросту на велічыню каля 250 тыс. чалавек. Такім чынам, мы можам сцвярджаць, што дэмаграфічныя страты рэспублікі склалі каля 3 мільёнаў чалавек.

Але і гэтая лічба ўяўляецца досыць спрэчнай. Бо дагэтуль мы вызначалі колькасць страт толькі мірнага насельніцтва. Хоць мы мала ведаем і аб гэтых стратах. Вядома, што ў акупацыі апынулася каля 40 працэнтаў насельніцтва краіны, г. зн. прыкладна 80 мільёнаў

**Табліца 1.**

**Дадзеныя перапісу насельніцтва на 6.01.1937 г. (тыс.)**

| Тэрыторыя | Усё насельніцтва | Гарадское насельніцтва |
|---|---|---|
| БССР | 5134.5 | 1055.5 |
| Віцебская вобласць | 1180.2 | 264.7 |
| Гомельская | 840.6 | 205.1 |
| Мінская | 1186.5 | 285.2 |
| Магілёўская | 1302.1 | 244.0 |
| Палеская | 625.1 | 56.5 |

**Табліца 2.**

**Нацыянальны склад насельніцтва Беларусі**

| | | | |
|---|---|---|---|
| беларусы | 4362 | тыс. чалавек | 83,9% |
| яўрэі | 363 | —„— | 7,0% |
| рускія | 248 | —„— | 4,8% |
| палякі | 120 | —„— | 2,3% |



З Р. ШЫРМАМ у Карлавых Варах.

Дапамаглі ў бядзе мае знаёмыя дактары: яны выдалі медыцынскае пасведчанне, у якім пацвярджалася, што я цяжка хворы на сэрца і што знаходжуся на лячэнні. Такім чынам, высяленне на нейкі час удалося зацягнуць. Затое нямецкія ўлады забаранілі мне выезд з Прагі без спецыяльнага дазволу, і на працягу цэлага года я павінен быў кожны месяц адзначацца ў пражскай паліцыі.

Але горш за ўсё жылося ў 1944 г.

Я павінен быў наспяваць новыя беларускія песні на грампласцінкі. Адчуваючы сябе дрэнна, звярнуўся да доктара, каб ён зрабіў ін'екцыю кальцыя ў жылу. Праз паўгадзіны я адчуў сябе яшчэ горш, тэмпература падскочыла да 40, пачаліся ірвоты. Знаёмыя, куды я зайшоў, амаль беспрытомнага адвезлі мяне дамоў. Гаспадыня, у якой я кватараваў, паклікала іншага доктара, які, агледзеўшы мяне, сказаў: «Не ведаю, ці вытрывае хворы гэту ноч» — і загадаў неадкладна адвезці мяне ў бальніцу. Як высветлілася, ін'екцыяй была атручана кроў. Папраўляўся я марудна.



З Жэняй ЯНІШЧЫЦ.

Аднойчы ноччу мяне нехта разбудзіў. Расплюшчваю вочы і не веру: у пакоі цёмна, у промні кішэннага ліхтарыка бачу накіраваны на мяне рэвальвер, грубы голас у цемры рэзнуў: «Уставай, пойдзем з намі!». Слабы ад хваробы, ледзь трымаючыся на нагах, апранаюся, а на рукі ўжо надзяюць ланцугі. І павялі ў цемру...

Вось тады я пазнаёміўся са «слаўным» Пэчкавым палацам — гняздом гестапа, з Панкрацкаю турмою і нарэшце з турмою ў Бенешаве. Гэта была Кальварыя, якая пакінула след на ўсё жыццё. Што ж здарылася? Чаму гестапаўцы надзелі мне наручнікі?

У доме, у якім я жыў, многа разоў начаваў без прапіскі чэх. Ён, як нам казаў, трымаў сувязі са славенскімі партызанамі. За чэхам сачылі гестапаўцы і налучылі яго недзе ў другім месцы. Схапіўшы чэха, фашысты арыштавалі ўсіх жыхароў нашай кватэры, а за мной прыйшлі ў бальніцу. Я чуў, як чэха білі фашысты, ён крычаў, але не выдаў нікога. Я чакаў сваёй чаргі. І ведаеце, аб чым я тады шкадаваў? Што не паспеў зрабіць новых запісаў беларускіх песень на грампласцінкі. Я застаўся жывы і, як бачыце, магу пісаць гэтыя радкі.

Нядаўна я глядзеў фільм аб Юліусу Фучыку, які, здаецца, дэманстраваўся ў Савецкім Саюзе. Там, між іншым, паказвалі і Панкрацкую турму і Пэчкаў палац. Фільм яшчэ раз ажывіў у памяці страшэнна перажытыя малюнкі.

Цяпер можаце ўявіць, з якім пачуццём мы сустракалі ў Празе Савецкую Армію. Яшчэ за некалькі дзён да прыходу арміі-вызваліцельніцы, па закліку чэшскіх патрыётаў, перададзенага па радыё, на вуліцах чэхаславацкай сталіцы мы пабудавалі барыкады, каб дапамагчы савецкім воінам дабіваць фашысцкую нечысць.

Пасля вызвалення Прагі Савецкай Арміяй ад гітлераўскіх акупантаў пачалося новае жыццё, новая праца. Мяне запрасілі выступаць па радыё і ў канцэртах. Спяваў песні партызанскія, кампазітараў-класікаў, народныя — рускія, украінскія, беларускія, польскія і інш. У той час на пражскім радыё працаваў кампазітар Альберт Пэк, які вёў аддзел народнай музыкі. Ён зацікавіўся паказанымі яму беларускімі песнямі і па майму жаданню апрацаваў 8 песень для канцэртнага выканання. Я выканаў іх разам з сімфанічным аркестрам, якім дырыжыраваў Пэк. Песні, перададзеныя па радыё, вельмі падабаліся слухачу і паўтараліся неаднаразова. Гэта былі: «Зялёны дубочак», «Ды ўжо сонейка», «Ой, валы мае», «Замуж пайсці», «Ой, ляцелі гусі ды з-пад Беларусі», «Ой, у лесе», «Калыханка» і «Ой, пайду я лугам, лугам».

Калі ў Прагу сталі даходзіць песні савецкіх кампазітараў, я ўсё, што мне падыходзіла па голасу, рыхтаваў і спяваў, як першае ў Празе выкананне. Так, у клубе кампазітараў, а потым па радыё я выканаў 5 рамансаў **Шастаковіча** —«День встречи», «День признания», «День обид», «День радости» и «День воспоминания»; **Кабалеўскага:** дзесяць санетаў Шэкспіра:

1. Тебе ль меня придется хоронить.
2. Трудами изнурен, хочу уснуть.
3. Люблю, но реже говорю об этом.
4. Когда на суд безмолвных, тайных дум.
5. Бог Купидон дремал в тиши лесной.
6. Не изменяйся, будь самим собой.
7. Ты музыка.
8. Ты погрусти, когда умрет поэт.
9. Уж если ты разлюбишь.
10. Увы, мой стих не блещет новизной.

На гэтых нотах Д. Кабалеўскі мне напісаў: «Первому исполнителю этого цикла за пределами Советского Союза — товарищу Михаилу Забейде на добрую память о встрече в Праге. 16.V.57! Д. Кабалевский».

Калі я праспяваў першы раз «Дзесяць санетаў Шэкспіра» Кабалеўскага (без нот, па памяці), адзін чэшскі кампазітар, віншуючы мяне, сказаў: «Ну, ведаеце, гэта проста гераічны ўчынак! Колькі ж вы сіл мусілі ўкласці ў гэту ахвярную працу. Не ведаю, ці здолеў бы хто іншы ў нас гэта зрабіць».

У маім рэпертуары былі таксама творы Хачатурана, Шапорына, Чуркіна, Пукста, Аладава, Багатырова, Салаўёва-Сядога, Макравусава і іншых савецкіх кампазітараў.

Я наспяваў многа песень на грамафонныя пласцінкі і больш за ўсё беларускіх народных. Сярод іх: «Зялёны дубочак», «Ды ўжо сонейка за лес коціцца», «Ляціць сарока», «Калыханка», «Свадзьба камара і мухі», «Ой, арол, ты арол». «Ой, ды зарадзілі ягады ў бары», «Што за месяц, што за ясны», «Ці не дудка мая».

Дзве першыя песні я запісаў ад сваёй маці.

На грампласцінкі я наспяваў таксама дзесяць італьянскіх песень на італьянскай мове кампазітараў Качыні, Пергалезі, Джыардані, Моцарта, Глюка і інш. Адна з грампласцінак з творамі Моцарта — «Радасны спакой» і Гендэля — «Маё гарачае каханне» была адзначана мастацкім дырэктарам чэхаславацкай грамафоннай фабрыкі, як самая лепшая з грампласцінак, наспяваных за апошнія пяць год.

На грампласцінкі наспяваў яшчэ 7 іспанскіх песень на іспанскай мове (у апрацоўцы М. дэ Фальі). Песні беларускія і іспанскія выйшлі і на доўгаайграючых грампласцінках, яны карысталіся такім поспехам, што ўжо даўно распрададзены. Апошняя грампласцінка з неапалітанскай і індзіянскай песнямі, наспяваная мною, тры месяцы таму назад таксама ўжо распрададзена.

Мае канцэрты носяць асаблівы характар. Я стараюся ўсе творы спяваць у арыгінале і напамяць, каб як мага найбольш прыблізіць выконваемую рэч да слухача, каб як мага найбольшы след пакінуць у яго душы. «Мастацтва — вялікая сіла», — заўважыў З. Нэедлы — вялікі чэшскі музыказнаўца. Гэту праўду заўсёды памятаю і сваім мастацтвам стараюся не толькі цешыць слухача, даваць яму духоўную асалоду, але і выхоўваць яго, паднімаць, абуджаць у ім лепшыя якасці чалавека. З гутарак пасля канцэртаў і пісьмаў, якія атрымліваю, відаць, што слухачы гэта адчуваюць, разумеюць мяне. А гэта для мяне самая вялікая ўзнагарода за маю скромную, але цяжкую працу. Бо не заўсёды спатыкаюся з разуменнем і падтрымкай. Ёсць у людзей многа перажыткаў старога, як, напрыклад, шавінізм, з якім адкрыта сёння ніхто не асмеліцца выступіць. А хто бачыць, што робіцца ў душы чалавека?

Ёсць і шмат яшчэ большых католікаў, чым сам папа рымскі. Многа яшчэ і ваўкоў у авечай скуры. Усё гэта псуе працу і жыццё наогул. Аднак вынікі гэтай працы часта радуюць.

У мінулым і гэтым годзе я атрымаў падзяку і прэмію ад чэшскага музычнага фонду «за майстэрскае выкананне песень сучасных чэхаславацкіх кампазітараў». Удзельнічаю таксама ў аглядзе канцэртнага мастацтва Чэхаславакіі 1962 года. (Якраз заўтра спяваю пяць рамансаў Шастаковіча. Гэта вялікі гонар і адказнасць: з цэлае рэспублікі выбрана толькі чатыры спевакі). З'яўляюся членам секцыі канцэртных мастакоў, якая аб'ядноўвае лепшых артыстаў усёй рэспублікі. А трэба сказаць, музычнае жыццё Чэхаславакіі высока развіта і арганізавана. Мала якая краіна экспартуе столькі добрых артыстаў за граніцу, як Чэхаславакія. І каб тут утрымацца «над вадою», трэба сапраўды нешта ўмець і нешта сваё мець.

Люблю спяваць дарма, тут няма канкурэнцыі. За такія выступленні атрымліваю шмат падзяк і спецыяльных пісьмаў з падзякамі, напрыклад, ад Саюза чэхаславацка-савецкай дружбы, ад Саюза чэхаславацка-польскай дружбы, ад камітэта савецкіх грамадзян, ад Міністэрства школ і культуры Чэхаславакіі, ад розных школ і інш. Быў два разы старшынёй камісіі цэнтральнага круга рэспубліканскага агляду народнай творчасці па сольнаму спеву.

Адным словам, працу маю тут цэняць, мяне паважаюць і любяць. Ці ўсе? Зразумела — не! Ды гэтага ж не дасягнуў нават геніяльны Шаляпін.

Тут «спаборнічаюць» два ўплывы: адзін старэйшы, гістарычны — заходні, другі, навейшы — усходні. Я — з апошнім, і гэта не ўсім падабаецца. І толькі таму, што я ніколі ў жыцці не карыстаўся нічыёй пратэкцыяй (хоць не раз спатыкаўся і з міністрамі і з прэзідэнтамі), мне бывала і бывае вельмі трудна. Але аб гэтым пісаць не буду.

«Жыццё — гэта барацьба». Шкада, што маю мала сілы, а выйграває заўсёды мацнейшы.

Канчаю свае ўспаміны, якія вельмі куцыя, бо складаюцца з адных фактаў. Няма афарбоўкі. Яны напамінаюць голае дрэва, без убору — лістоў, колеру — усяго таго, што робіць дрэва жывым, прыгожым. І хоць напісана многа, шмат што выпушчана, шмат чаго бракуе.

Хацеў бы некалькі слоў сказаць тым, хто, як і я, захоча мастацтвам служыць свайму народу, ці інакш народам:

«Любіце мастацтва ў сабе, а не сябе ў мастацтве» (Станіслаўскі); «Аднаго таленту мала, — трэба працаваць і працаваць» (Б. Сметана); «Памятайце, што дасканаласць у мастацтве не ведае межаў» (Станіслаўскі).

А Радзіме?!

Тое, што сказаў Янка Купала:

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі.
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.

А сабе?

Палепшыць сваё здароўе настолькі, каб змог паказаць прыгажосць нашай песні і там, дзе яна нарадзілася.

Не знаю, калі я паспеў пастарэць,
Расстацца з юнацкімі марамі;
Амаль развучыўся смяяцца і пець,
Узброіў свой нос акулярамі.

(М. Танк, «Роздум»).

15/II—25/IV — 1962 г.

Прага.

